

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 11 (13543)

9 — 15 сакавіка 1992 года

Цана 1 рубель 50 кап. (па падпісцы — 35 кап.)


*У нумары:*



# Хто ты, наш чытач?

Цэны на паперу, рыначныя адносіны з выдаўцамі, бытавая неўладкаванасць... На жаль, у віры гэтых праблем мы амаль што ўпусцілі такі важны момант, як вывучэнне чытацкай аўдыторыі. Цяпер мы хочам гэтую памылку выправіць і таму вельмі просім усіх, хто перыядычна (альбо нават і не вельмі) чытае "Чырвоную змену", запоўніць картку, якую вы бачыце побач, выразаць яе і даслаць у нашу рэдакцыю. Гэта дапаможа нам скласці ўяўленне аб табе, шаноўны чытач, і ў адпаведнасці з гэтым будаваць надалей нашу працу.

## *Анкета "ЧЗ"*

*1. Узрост* .......................................................

*2. Пол (жаночы, мужчынскі)* .......................................

*3. Адукацыя (сярэдняя, сярэдняя спецыяльная, вышэйшая)* ..............

*4. Спецыяльнасць* ..................................................

*5. Пра што вы хацелі б прачытаць на старонках "ЧЗ"* ..................

.....................................................................

ALFA

## НАСУСТРАЧ РЭФЕРЭНДУМУ

Першая палова сакавіка вызначылася спробай публічна спаліць пудзіла расійскага прэзідэнта ў Маскве; павышэннем цэн на лікёра-гарэлачныя вырабы і зборам подпісаў да скліканне рэферэндуму – у нас. Асабіста для мяне галоўная падзея – апошняя. Растлумачу чаму: мне надакучыла непаслядоўнасць цяперашняга Вярхоўнага Савета і яго Старшыні. Напрыклад, гатоўнасць, атрымаўшы ўдар па левай шчацэ, падставіць правую: нічога, што нашы партнёры па СНД не выконваюць пастаўак (з-за чаго ўжо закрываюцца беларускія прадпрыемствы), – мы свае ўсё роўна выканаем. Як надакучылі і бальшавіцкія метады роднага ўрада, які падае чарговае павышэнне цэн абавязкова як "меры па сацыяльнай абароне насельніцтва". Ці ж не надакучыла тое самае і вам? У такіх умовах застаецца толькі чакаць новых лідэраў (ці няўжо мы такія дурныя, каб не знайсці іх – маладых, не абцяжараных камуністычнымі і любымі іншымі багажамі?).

Ды толькі апошнім тыднем мая аптымістычная вера ў будучыню крыху згасла. Згасла тады, калі я ў рэальным жыцці сутыкнуўся з першымі ластаўкамі будучага рэферэндуму – зборшчыкамі подпісаў. Адзін з іх заявіўся да мяне ў кватэру (а жыву я на праспекце "Известий") у не зусім цвярозым выглядзе. Другі ж уварваўся ў працоўны кабінет з крыкам, прычым нават не пацікавіўся, ці збіралі ў нас подпісы па месцы жыхарства. Разумею праблемы арганізатараў: спакойных, інтэлігентных людзей, якія да таго ж валодалі б роднай мовай, знайсці зараз у Айчыне цяжкавата. Аднак уявіце сабе і рэакцыю нармальных грамадзян на такіх вось "зборшчыкаў", а значыць, і на сам рэферэндум.

Вядома ж, мне могуць запярэчыць: ці да такіх дробязей зараз, калі трэба ратаваць Беларусь? Што ж, можа і так. Толькі гэта мы ўжо неаднойчы праходзілі – калі нармальныя чалавечыя адносіны лічыліся дробязямі, перашкаджаючымі вялікай справе...

Павел Сіманаў.




*11 сакавіка, у дзень адкрыцця чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, у Мінску на плошчы Незалежнасці адбыўся агульнарэспубліканскі мітынг работнікаў народнай асветы з патрабаваннямі паляпшэння ўмоў жыцця*

Фота С.Брушко.

## ЗВАРОТ

Канфедэрацыя працы Беларусі 21 снежня 1991 года патрабавала прыцягнуць да крымінальнай адказнасці арганізатараў цынічнага эксперыменту над людзьмі, названага "раздзяржаўленнем". Шляхам фальсіфікацый, палітычных спекуляцый і мэтанакіраванай містыфікацыі свядомасці, ад насельніцтва Рэспублікі Беларусь утойваецца элементарна простая сутнасць таго, што адбываецца.

Гэтая сутнасць для кожнага грамадзяніна аднолькавая: атрымаць частку неабходнай для жыцця ва ўмовах рынку маёмасці з былой усенароднай уласнасці. Заўтра ўзровень жыцця кожнага будзе вызначацца тымі ўмовамі, на якіх ён зможа валодаць, распараджацца і карыстацца сродкамі вытворчасці. Кожны грамадзянін, які мяркуе стаць суб'ектам рыначных адносін (г.зн. выраблядь індывідуальна або калектыўна тавары і паслугі), імкнецца сёння па мінімальнай цане прыдбаць неабходныя для гэтага састаўляючыя: зямлю, капітал і працоўную сілу.

Першы этап прыватызацыі, названы раздзяржаўленнем, праводзіцца антыканстытуцыйным шляхам праз вытворча-працоўную, а не грамадзянскую сферу дзейнасці. Разнастайныя пераўтварэнні прадпрыемстваў і шматлікія скарачэнні пад выглядам адсутнасці законаў, сыравіны і камплектуючых робяцца для таго, каб аформіць новымі статутамі і дагаворамі паўнапраўных грамадзян у якасці таннай працоўнай сілы. Адначасова шматмільённыя маёмасныя комплексы афармляюцца службовымі асобамі на сябе і сваіх блізкіх. Спрыяюць гэтаму створаныя палітычнымі арганізацыямі (у тым ліку спецорганамі) "прафсаюзы", якія аб'яўляюць сябе наёмнымі работнікамі яшчэ раней, чым такое паняцце будзе аформлена юрыдычна.

Такім чынам, людзей наперад пазбаўляюць магчымасці заявіць свае прэтэнзіі на сродкі вытворчасці, каб пры жаданні абмяняць права саўладальніка на нармальныя ўмовы працы па найму.

Для абгрунтавання заявы ад 21.12.91 г., якая была перададзена Генеральнаму пракурору і старшыні КДБ РБ, выканком Канфедэрацыі працы Беларусі падрыхтаваў аб'ёмны дакумент (50 аркушаў), у якім падрабязна апісаны метады незаконнай прыватызацыі, падставы для прызнання несапраўднымі рашэнняў і здзелак адміністрацыі, метады і формы калектыўнай абароны і procідзеянні наменклатурнаму бяспраўю.

Існуе небяспека, што ўсе свае незаконныя дзеянні мафіёзна-крымінальны клан узаконіць праз Вярхоўны Савет РБ на сесіі, якая адкрылася 11 сакавіка 1992 г. Іх рашучасць будзе залежаць ад таго, наколькі шырока і свядома будзе наглядаць народ Беларусі за тым, што адбываецца.

Як грамадзянін і як кіраўнік Канфедэрацыі працы Беларусі, я звяртаюся да насельніцтва, прадпрымальнікаў, прадпрыемстваў і арганізацый: дапамажыце, матэрыяльна і тэхнічна, выдаць масавым тыражом прыгаданы вышэй дакумент.

Звяртацца: тэл. 37-41-49, 26-63-31, 26-64-46.

Р/р № 695007 МФО 331 у аддзяленні Прамбудбанка па Мінскай вобласці.

Старшыня выканкома
Канфедэрацыі працы Беларусі
М.М.Собаль.

*Надзённае*

## Маналог без аптымізму



Член рэдкалегіі нашага штотыднёвіка, дырэктар вядомага ўсёй рэспубліцы племзавода "Леніна" Мікалай Мікалаевіч Ларковіч адзначае юбілей. Роўна пятнаццаць гадоў узначальвае ён гэтую моцную гаспадарку. Чалавек, які знаходзіцца ў самай гушчыні праблем, у віры неспакойнага жыцця, не хоча і не можа маўчаць. Яго словы – гэта непрыхаваны боль занепакоенага, пазбаўленага глебы пад нагамі селяніна.

— Няма парадку. Няма адказнасці — пачынаючы з самага верху і да апошняй прыступкі, ад міністра і да рабочага. Ніхто ні за што не хоча адказваць, жывём, быццам у цямрэчы,— няма ні рэсурсаў, ні фондаў, невядома, ці будуць яны. Суцэльныя прыцэмкі вакол. Народ у вёсцы ходзіць босы — паесці пакуль што маем, а вось апрануць... Механізатары ходзяць у ботах, з якіх пальцы тырчаць. Дык дзе ж абутак з той скуры, што якраз вёска і дае? Нават па дарагой цане — і то нічога... На языку — вёсцы аддаюць прыярытэт, на самай справе — знішчаюць.

Ці будзе прасвет? Пры такім кіраванні я яго не бачу. У біржы не веру, бо на іх сельскай гаспадарцы няма чаго рабіць. Там ёсць месца толькі заможным, зараз жа заможных няма. Ва ўсім свеце сельская гаспадарка жыве на дзяржаўную датацыю — узяць тую ж Галандыю, дзе я ў мінулым годзе пабываў. У нас дэфіцыт бюджэту ўсяго толькі 6 працэнтаў, гэта афіцыйна. На самай жа справе ён будзе не меншы чым 40 працэнтаў. Усе гэта бачаць, але ніхто мер не прымае.

Прыватызацыя? Па-першае, ніхто не ведае, як гэта рабіць — законаў няма. Па-другое, з пяцісот працаўнікоў нашага племзавода ніхто больш чым гектар не просіць, бо, каб гэтая зямля штосьці давала, на ёй трэба працаваць, потым яе паліваць. Працавалі б, але дзе тэхніка? Дзе ўгнаенні? Дзе ўсё тое, што наша рэспубліка раней стварала, што і самім хапала, і ў іншыя краіны вывозілі? Вось таму з калектыўнай гаспадаркі ніхто не выходзіць...

Вы думаеце, што цяпер народ з горада пачне ў вёску вяртацца? Наўрад ці. Глядзіце самі — зарплата ў прамысловасці вырасла ў пяць—дзесяць разоў, у сельскай жа гаспадарцы — і ў гэтым абмежаванне — нам дазволілі павысіць зарплату толькі ў тры разы, ды і то з агаворкай, калі ёсць рэсурсы. А дзе іх адшукаць? У дзяржаўным банку крэдытаў не ўзяць, а камерцыйныя банкі грэюць на гэтым рукі, падымаюць працэнт усё вышэй і вышэй.

Нічога нам зараз не дапаможа — ні перастаноўкі, ні рэферэндум... Я б зараз на паўны час пусціў бы да ўлады Пазняка — хай паспрабуе. Толькі як бы потым не прыйшлося Бога маліць, каб Машэраў падняўся...

Раней песню спявалі: "Раньше думай о Родине, а потом о себе". Цяпер — наадварот. Раней — усё аддавалі ў горад, што застанецца — ішло нам, на вёску. Цяпер мы будзем думаць аб сабе... Зарплата прыбіральшчыцы ў горадзе большая, чым у даяркі... Усе крычаць — голад, голад, а яшчэ ніхто ў племсаўгас "Леніна" не прыехаў, гарадскую кватэру не здаў... Не будзе голаду, бо кожны навучыцца красці, прыстроіцца — і крадуць, а з мужыка апошнюю скуру здымаюць. А як здымуць — вось тады і есці не будзе чаго.

Не дай Бог яшчэ да рукапашнага бою дайсці. Ужо на ўсіх дарогах мытні паставілі. На кожную запчастку ліцэнзію трэба браць. Дзе ж тыя сувязі, што былі, дзе тое сяброўства?

Надта шмат у нас праблем. І падстаў для аптымізму я пакуль што не бачу...

Маналог запісаў
А.ПАЛЫНСКІ.

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

### *Уладзімір Ліпскі, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду:*

**З дзённіка**

Памёр Антонік Алейнікаў.

На шостым гадку абарвалася жыццёвая струна.

Завяла кветка. Не выспеў плод.

Мы, беларусы, сталі бяднейшымі на адну чалавечую гісторыю.

І павезла матуля свайго сынка з Мінскай бальніцы на віцебскія могілкі...

А мы ж, дзетфондаўцы, рыхтавалі ім іншую дарогу. У Лондан, у слынны шпіталь. Заказалі білеты, знайшлі "зялёненькія". Ды вось жа — не паспелі...

Апранiся ў траур, Рэспубліка Беларусь, памёр твой сынок Антонік Алейнікаў. Загінуў ад лейкеміі. На чарнобыльскім палігоне.

### *Уладзімір Нікaнчык, кандыдат эканамічных навук:*

— Самай галоўнай падзеяй апошняга часу я лічу Асамблею дзелавых колаў, якая адбылася колькі тыдняў таму. На Асамблеі прысутнічаў прэм'ер-міністр Кебіч. Гэта сведчыць пра тое, што пачаўся працэс прызнання ўладаю сіл прадпрымальніцтва, што дыялог завязаўся. Хвалюе, што парламент напярэдадні рэферэндуму згубіў жаданне працаваць. Рэспубліка засталася фактычна без парламента і прэзідэнта. А радуе тое, што народ прыняў павышэнне цэн без "крутых" рэакцый. Значыць, ёсць яшчэ давер да ўлад. Але баюся, што гэты давер і гэтае цярпенне хутка скончацца.

### *Сяржук Вітушка, навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Максіма Багдановіча:*

— Што мяне зараз хвалюе? У свой час народныя дэпутаты Беларусі абмяркоўвалі святочныя даты рэспублікі. Ці памятаеце, як упарта адстойвалі бальшавікі свой дзень — 7 лістапада? Апазіцыя ж амаль выпусціла з-пад увагі Дзень Волі — 25 сакавіка. Але ж гэтая дата — найвялікшае свята, свята, якое заўсёды з намі. Раней 25 сакавіка было свайго роду днём апазіцыі. Цяпер жа, калі паўсюль лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі, калі зніклі ўсялякія забароны, я баюся, каб гэты дзень не стаў нецікавым. Дзень Волі, дзень, калі можна распраміць плечы, упэўнена пaглядзець на жыццё, павінен быць адзначаны. Шкада, што 25 сакавіка так і не стала нацыянальным святам.

*Партыі, рухі. Бег навыперадкі*

# "Агіда да гвалту"

**Так В.Лебедзеў, старшыня Мінскай рэгіянальнай рады НДПБ (Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі), вызначае адну з нацыянальных рыс беларуса.**

Дзеля свайго гістарычнага выжывання беларускі народ ня можа, ня мае права дазволіць анікага новага здзеку з сябе і сваёй палітычнай згуртаванасці. Сваёй нацыянальнай самастойнасцю ён стварае той трывалы падмурак, які не дасць яму звярнуць са шляху да поўнай незалежнасці. На Беларусі можа быць толькі беларуская ўлада. Яна павінна быць не толькі таму, што гэта будзе самая натуральная, самая нармальная ўлада, але і таму, што толькі беларуская нацыянальная ўлада вырашыць праблему ўладкавання палітычнага жыцця гэтай краіны.

Народ з вялікім гістарычным мінулым, нацыянальна з'яднаны, здольны сам кіраваць сабою. Тое, што адна яго частка (прыблізна 3/5) вызнае праваслаўе, а другая — каталіцтва і пратэстанцтва (прыблізна па 1/5 кожная) не паслабіць гэтага адзінства, а толькі паспрые развіццю павагі да ўсіх веравызнанняў і нацыянальнасцей увогуле, дасць падставы для ўпэўненасці, што ўкраінец, расеец, летувіс, паляк, яўрэй і іншыя — усе яны будуць адчуваць сябе ў вольнай Беларусі вольна, як на другой сваёй радзіме. Гэта даказана і шматвяковым суіснаваннем беларускага народа з іншымі нацыянальнымі супольнасцямі, што мірна жылі на нашай тэрыторыі. Зведаўшы на самім сабе ўвесь цяжар нацыянальнага прыгнёту, пазбаўлены шавінізму і іншых ваяўнічых памкненняў беларускі народ і яго нацыянальная ўлада дасць кожнаму чалавеку на сваёй зямлі права на яго культуру і жыццё, згодна з асабістым пажаданнем.




Нацыянальная рыса беларусаў — агіда да гвалту, у чым бы ён ні праяўляўся. На першы погляд, гэта можа здавацца слабасцю беларускага народа, а на самай справе ў гэтым — цывілізаванасць беларускай нацыі, яго гонар і сіла.

Беларуская нацыянальная ўлада, якая нараджаецца праз канстытуцыйнае права, заўжды прызнавалася і будзе прызнана не толькі беларускім народам, але і лепшымі прадстаўнікамі летувінскага, украінскага, расейскага, польскага народаў як улада адзіна магчымая на Беларусі. Яна з'яднае інтарэсы ўсіх, хто жыве на тэрыторыі Беларусі.

Агульнавядомы факт, што нацыянальная меншасць палякаў, якія жылі ў Гродзенскай, Віленскай і іншых губернях, з нянавісцю ўспаміналі расправу расейскага ўрада над паўстаннямі 1831 і 1863 гг., ішлі на прызнанне нацыянальнай беларускай улады, нягледзячы на ўсю радыкальнасць яе праграмы. Адначасова з гэтым і так званы "русский элемент" на Беларусі, які не хацеў нават чуць пра планы Польшчы захапіць заходнія губерні, з задавальненнем сустракаў беларускую ўладу як уладу нейтральную.

Няма нічога дзіўнага, што беларускі народ актыўна і свядома зараз за яе змагаецца. Толькі свая ўлада на сваёй зямлі забяспечыць яму спакойнае развіццё, дапасаванае да ўсіх яго ідэалаў, звычаяў, веравызнання. Гэта развіццё заснавана на спрадвечных нацыянальных пачатках, якія беларускі народ выпрацаваў на працягу ўсёй сваёй гісторыі і захаваў да сённяшніх дзён.

Нарэшце, толькі пры дапамозе сваёй улады ён створыць на сваёй зямлі парадак, адпаведны сваёй нацыянальнай дэмакратычнай прыродзе.

На Беларусі ў мінулым склаліся такія ўмовы, што беларускі народ з цягам часу страціў сваіх буйных землеўладальнікаў (нацыянальнае дваранства), якія сталі вызнаваць сябе палякамі, і амаль не займеў свае нацыянальнае буржуазіі ў гарадах, якая ў большай частцы была альбо расейская (буйная), альбо яўрэйская (сярэдняя і дробная).

Гістарычны парадокс, але і сёння беларуская ўлада ня можа апірацца на абмежаваны клас буйных уласнікаў, якія з'яўляюцца былою манкуртызаванаю наменклатураю КПСС—КПБ. Яны паспелі ўжо прыватызаваць для сябе ўсё, што хацелі.

Апірышча для ўлады беларускага народа — шырокія масы насельніцтва вёскі і горада.

Асобая роля ва ўсталяванні народнае ўлады належыць беларускай інтэлігенцыі, якая не адарваная ад народа, пазбаўленая здрадніцкіх настрояў, уласцівых прадстаўнікам з асяродку рабаўнікоў дзяржаўнае маёмасці (наменклатура КПСС—КПБ). Яна жыве агульным з народам жыццём, сілкуецца толькі ад яго, з'яўляецца яго авангардам.

Галоўнымі рысамі такое ўлады відавочна з'яўляюцца: натуральнасць — для шматмільённае беларускае нацыі і павага — да ўсіх нацыянальных меншасцей Рэспублікі Беларусь.

Калі яна зможа паралізаваць шавіністычныя ўплывы Варшавы і Масквы, канчаткова вырашыць недарэчныя спрэчкі паміж апошнімі на нейкія правы на нашыя землі, то ў гэткім выпадку назаўжды адпадзе пытанне "Есть ли этой край русский или польский" на карысць усіх славян, насяляючых цэнтр Еўропы.

Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі ўпэўнена, што наканаванні гісторыі не пазбегнуць і што абуджаная Беларусь не паступіцца сваімі здабыткамі.

*Прапануем нашым чытачам вытрымкі з кнігі буйнога палітычнага дзеяча Францыі Мішэля Ракара, якая выйшла ў выдавецтве "Міжнародныя зносіны" (Масква, пераклад з французскай мовы). І хаця аўтар адрасуе радкі перш-наперш, зразумела, французскім чытачам, тое-сёе з яго выслоўяў надзвычай нагадвае нам нашу, мясцовую сітуацыю.*

*Коратка і ясна*

# Мы – не французы, але...

* Ніякая рэформа выбарчай сістэмы няўладная змяніць расстаноўку сіл. Таму найлепш ведаць гэтыя сілы і імкнуцца да кампрамісу, чым заблытваць справу або адмаўляць іх існаванне. Мы гаворым "так" іх збліжэнню і "не" — іх зліццю.

* Дасканалых канстытуцый не бывае. Ёсць канстытуцыі, якія дзейнічаюць, і тыя, што не дзейнічаюць. Дзейнічае такая канстытуцыя, якая ставіць выбаршчыка перад дакладным выбарам і дае магчымасць выбарным асобам кіраваць у добрых умовах. З пункту гледжання гэтых крытэрыяў няма сумненняў у тым, што канстытуцыя Пятай рэспублікі (Францыі.— Ад рэд.) дзейнічае. Таму нявартa пастаянна крытыкаваць прадугледжаныя ёю правілы гульні, патрэбна скіроўваць увагу на іх выкананне. У нас ёсць справы больш важныя...

* Калі штосьці і выклікае ў мяне непрыманне, дык гэта ідэя, быццам да моладзі неабходны асаблівы падыход. Чаго толькі я не наслухаўся ў гэтай сувязі ад маіх блізкіх, якія з вынікамі апытання грамадскай думкі ў руках спрабуюць пераканаць мяне ў неабходнасці звароту да моладзі са спецыяльнай праграмай.

І што ж я павінен ёй сказаць? Што ў моладзі больш правоў, чым у іншых? Што яна стварае самастойнае грамадства, да якога неабходна падлашчвацца, электарат, які запатрабуе далікатнага стаўлення?

Я схільны меркаваць, што моладзь не зможа знайсці свайго месца ў сістэме, у якой не знаходзяць сабе месца іншыя.Я таксама мяркую, што ў моладзі ёсць свае праблемы, але гэта тыя ж праблемы, што і ў менш маладых. Трывога за будучыню, страх перад беспрацоўем, недастатковая прафесійная падрыхтоўка, гарадское жыццё, павага да культуры і індывідуальнасці. Гэтыя пытанні тычацца ўсіх. Ясна, што для моладзі яны набываюць некаторую спецыфічную афарбоўку. Гэта неабходна мець на ўвазе і я стаўлюся да гэтага ўважліва.

* Я лічу інтэлектуальным калекам кожнага, хто, засеўшы ў палітычнай гульні, ужо не ў стане ўсведамляць рэаліі навакольнага свету. Адказны палітычны дзеяч абавязаны — перад самім сабой і іншымі людзьмі — быць грунтоўным сацыёлагам ці, на крайні выпадак, уважліва чытаць працы тых, хто займаецца сацыялагічнымі даследзінамі, нават калі гэтыя працы і не носяць такога назову. Палітык не павінны навязваць грамадству свае ўяўленні і ўхіляцца ад вывучэння яго жыцця.

* У самых глыбінных слаях нашага грамадства адбываюцца павольныя, заўважныя толькі праз дзесяцігоддзі зрухі, якія будуць мець сур'ёзныя вынікі і выклічуць шматлікія канфлікты, калі яны не будуць своечасова заўважаныя, падтрыманыя і легалізаваныя пры дапамозе звычаяў ці закону.

* Для мяне мінімум цывілізацыі — гэта хлеб і Дэкларацыя правоў чалавека. Згодна з выслоўем аднаго з маіх сяброў, скажу, што размова ідзе менавіта пра мінімум: вышэй за гэтую планку можна спрачацца, прыводзіць аргументы, крытыкаваць, паляпшаць, ніжэй — весці барацьбу.

* Хопіць займацца пошукам якойсьці меры апраўдальных дэфініцый тыпу "фармальная свабода", "абстрактная свабода", "буржуазныя свабоды", хопіць штучна супрацьпастаўляць свабоду адзінкавай асобы і свабоду грамадства. Свабода непадзельная. Альбо яна ёсць, альбо яе няма.

*ВАЙСКОВЫ ВЕРНІСАЖ*



Лоб у лоб.



Здзіцянелі...



Скарачэнне войска ў дзеянні.

Малюнкі В.САКОВІЧА.

# ГУЛЬНІ У СТЫЛІ "РЭТРА"

## У МУЗЕІ НАРОДНАЙ АРХІТЭКТУРЫ І ПОБЫТУ



*Ніхто з нас не застрахаваны ад непажаданых сутыкненняў і канфліктаў, для кожнага яны заканчваюцца па-свойму. Канфлікт, які адбыўся ў Дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, скончыўся звальненнем аднаго з яго супрацоўнікаў — Алеся КРЫШТАПОВІЧА*

Хлопец, за плячыма якога служба ў Афганістане, не знайшоў агульнай мовы са сваім кіраўніцтвам і пасля доўгагадовых канфліктаў быў звольнены з працы. Паспрабуем разабрацца і зірнуць на сітуацыю вачыма кожнага з удзельнікаў канфлікту.

### Алесь

– Алесь, праца кожнага калектыву, кожнай установы залежыць ад таго, хто гэты калектыў узначальвае. Што, на тваю думку, уяўляе сабою сённяшні дырэктар музея, і чаму вы з ім не ўжыліся пад адным дахам?

— Сёння ў кабінеце дырэктара вісіць бел-чырвона-белы сцяг. А яшчэ паўгода таму яго палохала ўсё такога кшталту. Ён усялякімі сродкамі спрабаваў пазбавіцца нацыянальна свядомых людзей. Не палічы, што гэта эмоцыі і спроба звесці рахункі пакрыўджанага чалавека, але, калі ты пабываеш у памяшканнях, у якіх працуюць супрацоўнікі музея, ты пагодзішся: у такіх умовах працаваць нельга. Але за ўсе 7 год свайго кіравання дырэктар не зрабіў нічога для паляпшэння ўмоў працы супрацоўнікаў музея, ні на 1 квадратны метр не павялічыў працоўныя плошчы.

*І гэта сапраўды так. Завітаўшы ў будынак, дзе знаходзяцца памяшканні супрацоўнікаў музея, мне стала крыху не па сабе — як у такіх умовах можна ўвогуле працаваць? Пакойчыкі, у якіх (на маю думку) можна размясціць ад сілы трох чалавек, умяшчаюць па шэсць-сем супрацоўнікаў, сталы стаяць упрытык адзін да аднаго і прайсці паміж імі амаль немагчыма.*

— У мяне была свая фоталабараторыя, памяшканне пад якую я арандаваў у майстэрні архітэктараў Градава і Левіна. Жадаючы дапамагчы музею, я прапанаваў яго кіраўніцтву па дамоўленасці з архітэктарамі арандаваць гэтае памяшканне музею і аформіць як афіцыйную лабараторыю. Так і зрабілі. У музея, у рэшце рэшт, з'явілася свая фотамайстэрня. Толькі цяпер падманутым аказаўся я: апынуўшыся на вуліцы, я пакутую не толькі з-за таго, што страціў працу, але яшчэ і таму, што страціў уласную майстэрню: цяпер жа гэтае памяшканне арандуе музей. А тое, што гэта я ахвяраваў яго музею ў свой час, нікога не хвалюе.

– Чаму, на тваю думку, так зрабілі з табою? – пытаюся ў Алеся.

— У апошнія некалькі год на працу ў музей пачалі прымаць, не скажу што людзей поўнасцю далёкіх ад навукі, але далёкіх ад нацыянальнай свядомасці і культуры. Яны палохалі дырэктара нацыяналізмам. А мяне не палюбілі за тое, што многія мае фотаздымкі друкаваліся ў замежных выданнях — амерыканскіх і польскіх. У гэтым яны бачылі здраду Бацькаўшчыне. У дадатак яшчэ мой артыкул у "Ніве" (Беласток) (яго я прысвяціў сваёй "місіі" ў Афганістане), што выйшаў у 1989 годзе, падліў алею ў агонь.

– Дык чаго ж, у рэшце рэшт, баяўся дырэктар, чым ты мог яму насаліць?

— Калі ўвогуле: грамадскага абмеркавання працы ў музеі. Ён паўсюль бачыў здраду, падкопы пад яго. Калі ў 1988 годзе Ганна Фурс правяла Купалле на тэрыторыі музея, ёй была аб'яўлена вымова. Альбо яшчэ такі выпадак.У 1985 годзе Сяржук Сокалаў-Воюш, які працаваў на той час загадчыкам музея Якуба Коласа ў Мікалаеўшчыне, філіяле нашага музея, вырашыў таксама адсвяткаваць Купалле. Пад раніцу нас затрымала КДБ, усім далі штрафу па 200 рублёў, а Сержука звольнілі з працы.

– Але ж афіцыйна цябе звольнілі не таму, што ты патрыёт сваёй Бацькаўшчыны?

— Безумоўна. Напачатку мяне спрабавалі звольніць за тое, што я нібыта дрэнны спецыяліст. І, магчыма, менавіта ў дырэктара былі падставы так лічыць. У 1990 годзе ён, пасля паездкі ў Польшчу, папрасіў мяне праявіць яго стужкі. А там нічога не аказалася. Хто вінаваты? Крыштаповіч. Акрамя таго папікалі і нейкім амаральным жыццём і тым, што спазняюся на працу. Урэшце прычапіліся да таго, што ў лабараторыі не хапае асобных рэчаў, якія не былі своечасова спісаныя, і звольнілі за недавер да мяне, як да матэрыяльна адказнай асобы. А там жа палова абсталявання майго, прыватнага! Чаму на гэта ніхто не глядзеў?!

– І якія твае планы?

— Буду судзіцца. Для мяне гэта справа гонару.

Такі погляд на праблему ў пацярпеўшага — фотамайстра Алеся Крыштаповіча. Але ёсць жа і іншыя бакі... Для пачатку я вырашыў даведацца, як ставяцца да гісторыі з Крыштаповічам у працоўным калектыве.

### Калектыў

Першапачатковая размова адбылася з Тацянай Тамаровіч і Ульянай Шаставец, але потым да гутаркі падключыліся ўсе, хто знаходзіўся на той час у пакоі. Увогуле іх агульная думка прадстала перада мной у такім выглядзе: "Не ўсё так проста, як здаецца на першы погляд. Немагчыма канчаткова сказаць, хто мае рацыю, а хто вінаваты ў той гісторыі. Гэты ўзаемныя недалюбліванні і прэтэнзіі працягваліся ўжо не першы год. Адно дадавалася да другога. Канешне, Крыштаповічу трэба было больш адказна ставіцца да тых матэрыяльных каштоўнасцей, што былі запісаны на яго імя. Але... Захацелі "з'есці" Алеся і "з'елі".

Такое стаўленне да здарэння з Алесем Крыштаповічам выказалі тыя, з кім ён працаваў не адзін год побач. Але ж ёсць яшчэ і тыя, ад каго непасрэдна залежаў яго лёс. Адзін з такіх людзей — старшыня прафкама музея Мікалай Іванавіч Скарадулін.

— Першы раз Крыштаповіча хацелі звольніць у кастрычніку 1991 года. Была праведзена атэстацыйная камісія, якая не атэставала яго на пасаду загадчыка фоталабараторыі. З той нагоды, што ён нібыта не прытрымліваўся планаў і своечасова не выконваў заяўкі. Быў падпісаны загад аб звальненні, і толькі праз тыдзень кіраўніцтва звярнулася ў прафкам падтрымаць гэты крок. Мы адмовіліся і запатрабавалі аднавіць Крыштаповіча на працы, бо не мелі даверу да той атэстацыйнай камісіі. Мінулі два месяцы, і кіраўніцтва зноў звярнулася ў прафкам з ініцыятывай звольніць Алеся. Але зараз ужо матывы выбралі іншыя: недавер да яго як да матэрыяльна адказнай асобы (артыкул № 254 КЗАП). І была глеба пад гэтым абвінавачваннем. Нельга проста так выкінуць, напрыклад, фотапавелічальнік, нават калі ён канчаткова сапсаваны. Ты за яго адказны матэрыяльна — значыцца, неабходна афіцыйна аформіць акт спісання. Алесь гэтага не рабіў. І калі ў лабараторыі сапраўды нечага не хапала, трэба было зрабіць усё так, каб не было да чаго прычапіцца. Я ўпэўнены, што Крыштаповіч не мог нешта там украсці з лабараторыі і прадаць. Наадварот, ён прыносіў туды пастаянна нешта сваё. Але факт недахопу быў, і супраць такой фармулёўкі мы нічога не маглі зрабіць.

– Як вы ўвогуле ставіцеся да Крыштаповіча?

— Я вельмі добра ведаю яго як чалавека. Ён вельмі добры і шчыры, сапраўдны патрыёт Беларусі. Адзінае, што кіруецца не разважаннямі, а эмоцыямі. Не зважае на існуючыя правілы "гульні".

Добры ён і як фатограф. Мяне, прынамсі, ніколі не падводзіў. Бывала, зрэдку спазняўся, але працаваў, рабіў усё адзін. Хаця ў штаце былі месцы для асістэнтаў. Толькі сам сабе ён памочнікаў знайсці не мог, а з тымі, што прыходзілі, не знаходзіў агульнай мовы.

– Хто ўсё ж вінаваты ў гісторыі са звальненнем Алеся?

— Не магу катэгарычна адказаць на гэтае пытанне.

– У рэшце рэшт мы падышлі да апошняга персанажа гэтай драмы. Дырэктар музея Георгій Андрэевіч Ткацэвіч. Гэта тая канчатковая інстанцыя, ад якой залежала вырашэнне пытання Крыштаповіча.

### Дырэктар

– Георгій Андрэевіч, ці правільнае было вынесена рашэнне ў выпадку з Алесем Крыштаповічам, ці апраўдана яго звальненне?

— Калі аб'ектыўна падыходзіць да сітуацыі, якая склалася з Алесем, то вымушаны прызнаць, што звальненне яго было проста неабходнасцю. І сыходзіла гэтая ініцыятыва не столькі ад мяне, колькі ад усяго працоўнага калектыву музея. Ён не "цягнуў" той аб'ём работ, які павінен быў выконваць. Зараз на яго месца мы ўзялі новага чалавека, і той за першы месяц сваёй працы зрабіў амаль столькі ж, колькі Крыштаповіч — за ўвесь мінулы год.

– Крыштаповіч збіраецца шукаць праўды ў судзе. Як Вы лічыце, на чый баку будзе рашэнне суда?

— Безумоўна, на баку музея. Як вы ведаеце, Крыштаповіч быў звольнены з працы за тое, што ў фоталабараторыі, за матэрыяльныя каштоўнасці якой ён быў адказны, выявіліся вялікія матэрыяльныя нястачы. У мінулым годзе недахоп вымяраўся тысячамі рублёў. Калі ж у гэтым годзе нам трэба будзе набываць усё тое, чаго нестае ў лабараторыі з-за марнатраўства Крыштаповіча, то сума будзе вымярацца дзесяткамі тысяч.

– Скажыце, а як Вы ставіліся да Алеся як да чалавека? Ён сцвярджае, што ў вас былі чыста прыватныя канфлікты і непаразуменні.

— Ставіўся я да яго, як і да ўсіх астатніх. Я ўжо маю вялікі стаж адміністрацыйнай працы і не прымаю ў адносінах паміж кіраўніком і падначаленым палюбоўніцтва. Са сваімі падначаленымі я паводжу сябе толькі як кіраўнік, якога цікавіць канчатковы вынік працы. Калі браць па вялікаму рахунку, то фоталабараторыя працавала не на музей, а на Крыштаповіча. Увогуле ён неадказна ставіўся да працы, часта падводзіў. Магу прывесці адзін прыклад. Як і ў кожным іншым музеі, мы вядзём летапіс жыцця свайго музея, у якім адлюстроўваем усе больш-менш важныя падзеі. Калі ў мінулым годзе мы праводзілі Дзень музея, Крыштаповіч сабраўся ехаць у Вільню. Я яго не адпусціў, матывуючы гэта тым, што такая падзея павінна быць адлюстравана і яму неабходна зрабіць фотаздымкі з гэтага свята. Але Крыштаповіч мала таго, што спазніўся на свята, але і не зрабіў ніводнага фотаздымка. Назваць гэта інакш, як шкодніцтва і здрада музею, я не магу. Таму прашу вас аб'ектыўна паставіцца да гэтага пытання...

### Аўтар

У выніку я і сапраўды вырашыў не рабіць ніякіх высноў, каб захаваць хоць якую-небудзь аб'ектыўнасць. У кожнага з дзеючых асоб, уцягнутых воляю лёсу ў гісторыю са звальненнем Алеся Крыштаповіча, свой погляд на праблему і, як кажуць, свая праўда. Варта заўважыць, што "асабовы" канфлікт перарос у маёмасны менавіта ў сённяшні час, калі так заўзята вядзецца дзяльба ўласнасці. У рэшце рэшт суд, безумоўна, паставіць усе кропкі над "і". Хаця, канешне, і шкада, што сітуацыя так абвастрылася, што неабходна ўмяшальніцтва праваахоўных органаў.

**Зміцер Лукашук, агладальнік "ЧЗ".**

*Са сваёй званіцы*

# Беларусы ўсіх краін, яднайцеся!

## Роздум пра неабходнасць правядзення Ўсебеларускага нацыянальнага кангрэса



*Жудаснае становішча! Стаяць з працягнутай рукой беларусы ў краінах Усходняй Еўропы, заслугоўваючы пагарджальных адносін былых нашых "братоў", якія дзесяцігоддзямі вывозілі каштоўнасці, высакаякасную прадукцыю прамысловасці з нашай рэспублікі, елі наш хлеб. А калі скончыўся хабар вывазу, то мы неяк хутка страцілі былое.*

Па-жабрацку, адкінуўшы годнасць і сорам, тысячы нашых суайчыннікаў прабіраюцца ў Польшчу, гандлююць там таварамі, нялішнімі і для рынку рэспублікі, каб у абмен набыць вопратку, тонкую бялізну паненкам, замежную тэле- і відэаапаратуру. Дома гэтага не прыдбаеш!

Самадзейныя гандляры амаль закінулі працу дома і поўнасцю аддаліся спекулятыўнай стыхіі, перапрадаючы у тры разы даражэй свае здабыткі, скупляюць даляры і савецкія грошы і пакрысе ператвараюцца ў паразітуючую праслойку махляроў.

Антыстваральная амаральнасць цягне за сабой развал вытворчасці, павялічвае супярэчнасці паміж дзяржавай і прадпрыемствам, дзяржавай і асобай. Нястрымна расце глабальны апетыт атрымліваць за сваю нікчэмную працу як мага больш грошай.

У гэтай пагоні за доўгім рублём выявіліся горшыя нашы радзімыя плямы. Бюракратычная супольнасць не паменшала, а, наадварот — узрасла. Новыя структуры дзяржаўнага і грамадскага кіравання ужо забыліся, што ўсяго год—паўтара назад ваявалі супраць апаратнай плыні. А яе вельмі шматлікія прадстаўнікі як сядзелі ў мяккіх крэслах, так і сядзяць.

Мала таго, кіраўніцкі клас задоўга да павышэння цэн і зарплаты спрытна павялічыў свой фінансавы капітал за кошт дзяржаўнага бюджэту. Такім чынам, элітная частка грамадства рэзка вырасла і яшчэ больш абвастрыла супярэчнасці, пашырыла прорву паміж сабой і асноўнай часткай насельніцтва. Гэта адна з галоўных прычын сацыяльнага напружання ў нашай рэспубліцы.

Яшчэ адзін вузел завязаўся на канфлікце даволі вялікай групы насельніцтва (у асноўным маладых людзей) з супярэчлівай рэчаіснасцю і незадаволенай нізкім матэрыяльным забеспячэннем. Адсутнасць сацыяльна-бытавых умоў, заробкі — грош на дзень — падштурхнулі частку нашых грамадзян да люмпенства. Гэта небяспечная, усюдыпранікальная з'ява.

Праца падменена падзёншчынай, зладзействам, разбоем, махлярствам, злосным падманам. Антыгуманныя адносіны да рэчаіснасці, а значыць і да годнасці чалавека, становяцца агрэсіўнымі, замяняюць маральнасць, адцясняюць на задні план працавітую частку насельніцтва. Пад прыкрыццём рыначных адносін культывуецца і даволі хутка развіваецца псіхалогія палявання за нажывай.

Невялікая частка грамадства ўжо валодае даволі значным капіталам. Значным настолькі, што раптоўнае павышэнне цэн і абяцаемае ўрадам з'яўленне ў продажы доўгачаканых тавараў сталася мыльнай бурбалкай. Яны былі скуплены прадпрымальнікамі, спекулянтамі ў супольцы з гандлёвай мафіяй яшчэ на базах. Апошнія сталі амаль узаконеным месцам рабавання дзяржпрадукцыі.

На другі дзень пасля павышэння цэн людзі схадзілі ў магазіны, каб толькі падзівіцца на новыя цэннікі. Але таварнай безлічы там па-ранейшаму не ўбачылі. Усё ізноў было скуплена па-за гандлёвай сеткай. Іх толькі і хапіла, каб задаволіць патрэбы ўтрымальнікаў банкнот. А асноўны масавы попыт у чарговы раз застаўся галодным.

Стварыўся цікавы парадокс. Вытворчасць тавараў народнага спажывання ўсё змяншаецца. Настаў фактычны таварны крызіс. А грашовая маса ўзрасла за кароткі тэрмін у шмат разоў. Гэта шлях да далейшага збяднення народа.

Відавочна, такое становішча выкліча рэзкае незадавальненне насельніцтва, якое стымулюецца бяссіллем дзяржаўных структур і нават капітуляцыяй праваахоўных органаў перад злачыннасцю. Яны цяпер узмоцнена ўкараняюць у грамадстве тэзіс аб тым, што рабаўніцтва знікне толькі пасля таго, калі мы вырашым эканамічныя і палітычныя праблемы.

Мы і так дажыліся да страху за сваіх дзяцей і за сябе як дома, так і на вуліцы. Але ж амапаўцаў да кожнага чалавека не прыставіш. Вось і атрымалася, што мы добраахвотна пераходзім на казарменнае становішча. І нават павінны дзякаваць лёсу за гэта.

Патрэбна зазначыць, што над нашай сацыяльна-эканамічнай бядотай навісла цёмнае крыло палітычнага разладу. Беларускія партыі імкнуцца цягнуць адзіны воз, як у вядомай байцы, у розныя бакі. Кіраўніцтва кожнай палітычнай групоўкі пасадзіла сваіх прыхільнікаў, каго на гістарычнага канька, каго на толькі што падкаванага, а хто едзе надарэмніцу і на пасляперабудоўчым возе.

Паглядзіш — і сіла гэта немалая, запальная, энергічная і рвецца ў бой. Толькі ладу няма паміж кіраўнікамі. Яны моцна паабтыкаліся балючымі калючкамі ўзаемных папрокаў, зняваг і крыўды, нават забыліся пра палітычныя дэбаты і не могуць пераступіць цераз уласныя амбіцыі.

Сітуацыя склалася небяспечная. Тэарэтычная распрацоўка стратэгіі і тактыкі сучаснага руху ва ўсіх пакуль што слабая, выбар сродкаў дзейнасці часта выпадковы, а праблемы лідэрства амаль без выключэння звязаны з адыходам ад камуністычнай ідэалогіі.

Мяркую, што ў сучасных умовах неабходна склікаць усебеларускі нацыянальны кангрэс прадстаўнікоў палітычных партый, дзяржаўных інстытутаў, грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў, груп насельніцтва ад нацыянальных меншасцей рознага веравызнання і замежных беларускіх суполак.

Кангрэс можа выпрацаваць найважнейшыя прынцыпы нацыянальнага прымірэння і згоды, абмеркаваць стратэгію і тактыку сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага адраджэння рэспублікі.

Усебеларускае народнае веча — гэта не ўрадавы і не надурадавы орган, не маючы таксама палітычнай афарбоўкі і арыентацыі, ён можа набыць рэферэндыяльнае права на ацэнку сучасных і перспектыўных праблем нашай рэчаіснасці, атрымаць мандат усяго народа на вызначэнне яго інтарэсаў ва ўнутраным і міжнародным жыцці і паспрыяе справе выхаду з эканамічнага крызісу, які ўсё разрастаецца.

Кангрэс выпрацуе адзіную платформу дэмакратычнага руху ў рэспубліцы, апіраючыся на здабыткі нацыянальнай гісторыі, а таксама ўзорных цывілізацый у розных краінах свету і на гэтай падставе зможа вызначыць тактычныя крокі дасягнення нашай рэспублікай рэальнага суверэнітэту без правакавання канфліктаў унутры Беларусі, разрыву жыццёва важных сувязей паміж рэспублікамі і яшчэ большага рабавання насельніцтва.

Усенародны кангрэс мае магчымасць скіраваць энергію і сілы ўсіх слаёў насельніцтва, палітычных партый і грамадскіх арганізацый на дасягненне рэальных правоў кожнай асобы на паўнацэннае жыццё не ў аддаленай будучыні, а сёння. Гэта патрабуе магутных маральных і матэрыяльных выдаткаў, энергіі. Кангрэс павінен дапамагчы асэнсаваць трагічнае становішча нашай нацыі і не толькі ў тым, што мы ўсе пераступілі мяжу беднасці, але і ў тым, што большая частка насельніцтва і асабліва моладзь страцілі разуменне працы як адзінай крыніцы дабрабыту.

Кангрэс, не абмяжоўваючы дзейнасць палітычных партый і груповак, а, наадварот, стымулюючы іх арганізацыйныя, асветніцкія і культуралагічныя асаблівасці, павінен накласці вета на міжусобіцы і паклёпніцкія выхадкі з любога боку, якія заўсёды прыкрываюцца інтарэсамі народа, а на самай справе ганьбяць той жа народ. Толькі ідэя замірэння і нацыянальныя інтарэсы могуць быць першаасновай дзейнасці кожнай палітычнай сілы, інакш яе існаванне страчвае пазітыўны сэнс — і грамадства можа і мае права адмовіць ёй у сваім даверы.

Крызіснае становішча вымагае ад палітычных партый і грамадскіх арганізацый актыўны пошук стратэгічных напрамкаў эфектыўнага развіцця эканомікі, выпрацоўкі тактыкі хуткага ўздыму народнай гаспадаркі. Мы ж пакуль што назіраем тузаніну ў дзяльбе партфеляў, эгаістычнае пустабрэхства з розных бакоў і абвінавачванне палітычных лідэраў у шматлікіх грахах, аб якіх яны ведаюць толькі з падручнікаў гісторыі. Агульнавядома, што няўмека можа "перагартаваць" сталь і тады яе магутнасць абарочваецца здрадніцкай крохкасцю. Вось і цяпер розныя палітычныя плыні замест канструктыўнага вырашэння праблем надзённага жыцця імкнуцца "прабарабаніць" сваё сола, каб адваяваць хоць мізэрную ячэйку ў грамадскай думцы, а ўвогуле яны ў парашок пераціраюць магутную энергію народа.

Кангрэс мае магчымасць спыніць састарэлыя формы і метады развалу вытворчасці — страйкі і забастоўкі, падтрымаўшы тыя камітэты, якія выступаюць за правы працоўных і адстойваюць іх без канфліктаў і агромністых матэрыяльных страт.

Для правядзення кангрэса неабходна стварыць падрыхтоўчы камітэт, у склад якога ўвойдуць прадстаўнікі ад кожнай супольнасці, хто заявіць пра неабходнасць свайго ўдзелу ў рабоце ўсебеларускага дэмакратычнага форуму. Камітэт падрыхтуе праекты асноўных дакументаў і вырашыць арганізацыйныя пытанні па правядзенню самога пасяджэння кангрэса. Асаблівую ўвагу падрыхтоўчы камітэт зверне на раўнапраўную сувязь з усімі грамадскімі сіламі рэспублікі, каб вопыт адраджэння і зярняты рэальнага выхаду з крызіснай эканомікі і палітыкі прараслі і прынеслі хуткі і канкрэтны вынік.

Прававы статус кангрэса будзе апірацца на закон аб усенародным абмеркаванні найбольш важных нацыянальных пытанняў, Канстытуцыю рэспублікі, а таксама на Дэкларацыю аб правах чалавека. У гэтым выпадку вывады, палажэнні і дакументы кангрэса атрымаюць сілу асноўнай грамадскай арыентацыі для мірнага развіцця нацыі ў супольнасці з іншымі краінамі і народамі.

Усебеларускі кангрэс, такім чынам, ператворыцца ў вышэйшы грамадскі орган народнай згоды, які будзе мець магчымасць перыядычна абмяркоўваць становішча ў рэспубліцы і выпрацоўваць стратэгію развіцця беларускага народа на шляху адраджэння. Пры гэтым народны сход будзе зыходзіць з падрабязнага аналізу канкрэтнага становішча эканомікі, палітыкі і культуры, каб на аснове аб'ектыўных ацэнак даць прагноз развіцця грамадства на перспектыву.

Паміж пасяджэннямі кангрэса павінен існаваць грамадскі сакратарыят для прапаганды матэрыялаў, апрацоўкі інфармацыі, сувязі з грамадскімі арганізацыямі і г.д., а таксама падрыхтоўкі і склікання чарговага кангрэса.

Народ Беларусі шукае свой далейшы шлях, імкнецца набыць веру ў заўтрашні дзень, адхіляе прароцтвы наконт апакаліпсіса і разлічвае на рэальныя сілы адраджэння.

**Алег Слука,**
**доктар гістарычных навук.**

*Лапцевая пошта*

# Пра тое, як я ў Мінск да прусака ездзіў

ЛІСТ ТРЭЦІ

*Даруйце, калі можаце, паважаныя рэдактары, што затрымаўся з лістом. Але ж я, каб ведалі, надоечы сам у сталіцу ездзіў. Толькі ж да вас зазірнуць не атрымалася. Аказія выйшла, хай яе чарвяк паесць. Ды я не хацеў, далібог, не вінаваты.*

А было во як. Сапсуўся, даражэнькія, мой тэлевізар. І хвароба, каб не салгаць, дзіўная нейкая напаткала яго на старасці гадоў: то паказваць паказвае, ды брэша абы-што, а то, наадварот, такое пакажа!.. Усёдна як з глузду з'ехаў. Дайце веры, я яго стаўляю на беларускую праграму, а ён мне чэша на мове суседняй братняй дзяржавы. Я сабе думаю, хітрэйшым буду, пераключу на маскоўскую, можа, хто пераблытаў, ды там цяпер па-наску гавораць? Як пераключыў!.. Як пераключыў — дык не пытайцеся. Валасы дыбка сталі — ледзьве паспеў з хаты выскачыць. А там, значыцца, браточкі-рэдактары, нават казаць неяк наёмка, мужык з бабаю... займаюцца, і ўсё-ўсё тое, што добрыя людзі хаваючыся, дык яны на ўвесь экран, пад музыку ды ў натуральную велічыню. Родненькія, бег да суседа, як бы сабакі за мною гналіся. А сусед смяецца:

— Цемната, — кажа, — хіба ты не чуў? Зараз жа спецыяльнае кабельнае тэлебачанне выпускаюць, глядзі, радуйся ды атрымоўвай задавальненне.

Не паверыў я суседу, бо дзе ж гэта бачылі, каб кабялі сваё тэлебачанне арганізавалі, яшчэ й сучак туды прыводзілі пакрываць. Нешта тут не тое. Ці не мая гэта скрынка, на старасці сорам апошні пагубляўшы, кепікі з мяне строіць?

Павёз яе ў горад, у майстэрню. Чыніць, значыцца, буду. Распавёў хлопцам-майстрам пра тую хваробу — і яны за жываты пахапаліся.

— Гэткі дзяцюк, — рагочаць, — а не ведае, што такое парнуха.

Як не ведаю! Я і сам пару люблю. Колькі разоў па голаму азадку бярозавым венічкам хвастаў. Дык жа не на экране.

Паеду-шка я ў Мінск. Людзі там разумныя, адуркаваныя, ня можа быць, каб не далі мне рады. Пасадзіў я тэлевізар пад хатні арышт, а сам паехаў у касу па білеты. Там у будцы ў такой шкляной дзеўка ветлівая ды прыгожая сядзіць, акурат зязюлька ў гадзінніку з боем. Прыйдзе яе час, адчыніць акенца, пракукуе, колькі ёй паложана слоў і хлябысь — зачынілася. Я ў яе пра білет пытаюся, а яна мне як накувала суму кругленькую, адразу і ехаць расхацелася.

— Авой, — кажу, — маладзічка, а ці нельга меней? Я ж не на самалёце ў Мінск ляцець сабраўся.

— Мусіць, ты, чалавеча, з Месяца зваліўся, — пачуўшы пра самалёт, раптам загаварыла мая зязюлька чалавечым голасам, — каб ведаў, сацыялізм мы ўжо даўно развілі, цяпер за капіталізм узяліся. Нічога, хутка і яго ўходаем.

Паспачувалі мы з ёй шчыра капіталізму беднаму з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора. Ды рабіць няма чаго — паехаў я.

Ехаць-ехаць, прыехаў у сталіцу, вываліўся з аўтобуса на асфальт, стаю, вачыма лыпаю. А самому, шчыра прызнацца, па неадкладных справах дужа захацелася. Азіраюся вакол, нібы заяц у чыстым полі, ані табе кусціка прыстойнага, ані якой "шпакоўні": камяніцы, адна адна вышэйшая, неба падпіраюць, і за рог не схаваешся, бо людзей вакол, як у тым мурашніку.

Раптам бачу: літара чырвоная мужчынская красуецца і народ туды валам валіць. Дзякуй Богу, мне яна якраз і патрэбна. Спускаюся ў нейкае сутарэнне. Гляджу, чарга стаіць даўжэзная, як у нашай краме пад час прывозу. Нічога сабе, думаю, прыспічыла людзям. А казалі, што ў Мінску есці няма чаго. А ў той чарзе — і мужыкоў, і баб, і дзяцей малых!.. Стаю, ня ведаю, што і думаць. Раптам мой сусед праўду казаў? Раптам цяпер мода такая новая павялася, каб усім разам і калектыўна?.. Бачу, ізноў дзяўчына ў будцы шкляной, каму чарга падыходзіць, суюць ёй рубель, а яна ўзамен дробязі жменю. Ай, дурань я дурань, то ж грошы мяняюць. Во каб цябе халерыя задавіла, і тут, аказваецца, грошы трэба. Я й гляджу, у горадзе ўсе такія дахадныя ходзяць. Дома пахвалюся — не павераць.

Тут побач кабінкі спецыяльныя, многа іх. Заходзіш, кідаеш мядзяк у шчыліну, лямпачка запальваецца і рабі сабе што трэба. У мяне медзякоў многа, зайшоў, кінуў, мяркую, дзе тут ямчэй, каб не так знатка. Як раптам вароты знекуль калі выскачуць, калі хлабыснуць мне. Тут я і расхацеў адразу. Кінуцца б наўцёкі, ды бачу, дзяўчына ўжо на дапамогу спяшае, яе тут не хапала!

— Разве не видите, — крычыць, — два по двадцать.

Нічога сабе, думаю, — дарагое задавальненне. Сунуў я два медзякі, тым часам бачу: людзі ў тых кабінках не затрымліваюцца, некуды далей шпараць. Ага, буду і я хітрэйшы. Я за людзьмі. А тут падлога, дальбог не брашу, правалілася пад нагамі і паехала некуды. Ледзьве паспеў за поручні ўхапіцца. Ну, з мяне, вядома, і душа вон. Во, думаю, папаўся хто кусаўся. А падлога ўніз і ўніз — ці не ў пекла еду. Пасля даведаўся, гэта ў іх экскаватарам завецца, ну, пад'ёмны кран для тых, хто занадта цяжол. А тут, скуль браўся, цягнік прыджаліў. Авоечкі! Дык мяне ж няйначай у метро зафундолілі. Вот табе і мужчынская літара!

Добра. Пытаюся ў людзей патрэбную станцыю. Паказалі. А ў тэлебачанне, кажуць, на Макаёнка трэба. Як палез я на таго Макаёнка, ды пад нейкую гару, як цыган па драбінах, дыбаю, пакуль залез — дыхавіцу сабе нагнаў. Там, на гары, ізноў камяніца. Ды якая! Мусіць, па ёй Бог з неба спускаецца. Адчыняю дзверы, заходжу, а міліцыянер мяне лэп.

— Вы куда, гражданин. Ваш пропуск.

— Пропуска ў мяне нямашака, — кажу, — а я здалёку. І трэба мне ў рэдакцыю.

— В какую?

— А грэц яе...

Не скажу ж яму, што мне ў кабялёвую. Пакрыўдзіцца яшчэ, жартачкі з міліцыяй. Дае ён мне нейкі даведачны нумар, ківае на тэлефон-аўтамат, звані, маўляў.

Падыходжу да апарата, а там кабета, далікатная такая, расфуфыраная, вочы вазакаціла, вусны пабялелі, тыкае пальцам на тэлефон, шэпча:

— Та-ра-кан!

Зірнуў, аж там прусак, самы натуральны, акалеў, бедачына, прама на апараце, не дачакаўшыся шчаслівага жыцця. Лыткі ў гору — і ляжыць.

— Не ведаеце вы, — кажу, — мамзэль, тараканаў. Тыя чорныя, як галавешкі, а гэты прусак, карычневай масці, даволі сімпатычны. І не вужака, не ўкусіць. Акалеў, дык усе мы смяротныя.

Суцяшаю, бо, гляджу, у паніцы кабета. Хаця б сама не раздзяліла тут прусаковай долі. А яна на мяне, як на вар'ята зірае. Ды я чалавек практычны. Сабе думаю, калі тут прусакі, а мо дзе і блохі, чаму б не быць кабялям? Дый міліцыянер вунь нескага ж вартуе? Каго яшчэ тут вартаваць?

Званіць не буду, а паеду лепей у "Чырвонку", там пра ўсё па знаёмству і распытаюся.

Ведаеце, ваш Дом друку ледзьве знайшоў. Адчыняю дзверы — нібы на кухню трапіў, гэдак прыемна пахне капустай ды катлетамі. Тут мая галодная жывёціна і выступіла на вялікую рэвалюцыю. Кішкі іграюць "Варшавянку". Гарлянка ўрачыста выконвае гімн былога Саюза. Была не была, зайду-шка і я да рэдактароў у сталовую, авось не прагоняць. Спусціўся ў скляпенне нейкае. Заняў чаргу, стаю, разглядваю ўсё — цікава ж. Раптам бачу, паперка на дзвярах вісіць:

"Посетители в верхней одежде не обслуживаются".

А ніжэй прыпіска:

"Без одежды — вне очереди".

Та-а-ак! Праўду казаў сусед. Значыцца, адстаў я ад жыцця. І як розуму не маю, увесь век буду ў чарзе стаяць. Ніякавата з непрывычкі, але ж, калі можна на экране, чаму нельга ў сталовай? Перахрысціўся я для смеласці і давай адзенне скідваць...

Што далей было, даражэнькія рэдактары, далібог, помню, як праз сон. Знекуль мужыкі ў белых халатах прыскочылі.

— Часам не з "Чырвонкі" будзеце, хлопцы? — пытаюся.

— Ды не, з "Навінкі", — адказваюць. Ветлівыя такія, інтэлігентныя.

— А ці чулі пра кабялёвае тэлебачанне?

— Ды мы якраз самі адтуль. Кандыдатаў на здымкі шукаем. Ці не згадзіцеся нам дапамагчы?

З дарагой душою. Прывезлі яны мяне ў студыю, паказваюць, распавядаюць, а там чысцютка, бялютка і ніводнага прусака. Во дзе культура. Абяцалі нават зняць у галоўнай ролі. Вось толькі ў іх там таксама чарга. Так што пакуль адпусцілі дадому. Сяджу во, сумую, чакаю выкліку і зорнага свайго часу. А пакуль пішу гэты ліст.

Шчыра

ваш Міхась Валоха
з-пад Лепля.



*З крыніц народных*

# ГУКАННЕ ВЯСНЫ

Прыход вясны заўсёды быў чаканым і жаданым у народзе. Адраджэнне прыроды пасля доўгага зімовага сну ўспрымалася ў чалавечым уяўленні як пачатак новага вітка жыцця і бясконца жыватворчай сілы зямлі. І хаця ў сакавіку яшчэ зімовыя завірухі і маразы неахвотна ўступалі свае правы вясеннім сонечным дням, у канцы гэтага месяца вясна была паўнаўладнай гаспадыняй. "У марцы, як у гарцы",— гаварылі сяляне,— "Сакавік часамі снегам сее, а часамі сонца грэе" ці "Вясной зверху пячэ, а знізу марозіць".

Чалавек, з яго спрадвечнымі вераваннямі і забабонамі, імкнуўся па магчымасці пасадзейнічаць больш хуткаму прыходу вясны, якая ўяўлялася яму ў выглядзе маладой прыгожай дзяўчыны. І ўжо з 25 сакавіка (па ст. ст.), калі па народнаму календару святкавалі Благавешчанне (у некаторых месцах — Звеставанне), усюды на Беларусі пачыналі сустракаць вясну. У асобных вёсках і сёлах гэты абрад адзначаўся і раней, з 1 сакавіка (па ст. ст.), часцей усё залежала ад мясцовых каляндарных традыцый. Ва ўсходнеславянскіх народаў гэта быў цэлы комплекс святкаванняў, які атрымаў назву — гуканне вясны.

Пачынаўся ён звычайна спальваннем зімы. На высокіх пагорках, за сялом, моладзь разводзіла агні, на якіх "палілі зіму": спальвалі льняное мялле, стары зношаны абутак і адзенне, іншыя непатрэбныя рэчы. У такіх дзеяннях знайшлі адлюстраванне старажытнейшыя ўяўленні чалавека аб ачышчэнні і вясеннім амаладжэнні зямлі. Ля вогнішча са смехам і жартамі спраўлялі розныя гульні з пераскокваннем праз агонь. Дзяўчаты дружна запявалі песні-вяснянкі:

*Благаславіце, старыя людзі,*
*А й вясну-красну загукаць*
*Загукаці жа.*
*Люту ж зіму замыкаць*
*Замыкаці.*
*Да вясну-красну на вулачку,*
*На вулачку ж,*
*Люту зіму ў каморачку*
*У каморачку.*

На Гомельшчыне быў вядомы абрад спальвання кола. Хлопцы і дзяўчаты ішлі на бераг ракі ці возера і рабілі невялікі плыт, на якім замацоўвалі старое прамасленае кола, што выкарыстоўвалася раней у гаспадарчых калёсах ці якой-небудзь іншай павозцы. Затым гэта кола падпальвалі і пускалі плыт на ваду. Вогненнае кола сімвалізавала сабой сонца, якое ўшаноўвалася нашымі продкамі-язычнікамі, як бажаство, і ў дадзеным выпадку апявалася, як крыніца, якая дае цяпло і жыццё. Пакуль плыт з палаючым колам плыў каля сяла, усе ўдзельнікі абраду ішлі за ім берагам ракі і спявалі песні-вяснянкі, у якіх звярталіся да нябеснага свяціла:

*Сонейка на прыпечак скацілася,*
*І зямліца ўсміхнулася:*
*— Вазьмі, сонейка, у Бога дазволу*
*І спусціць дадолу,*
*Мы табе спяваем,*
*Мы цябе ўсхваляем,*
*Прыходзь, мы цябе чакаем!*

На Рагачоўшчыне моладзь дзялілася на дзве-тры чародкі, кожная з якіх займала пагорак, які ўжо больш-менш падсушыла сонейка і, пераменна падаючы свае галасы, пачыналі спяваць:

*Ой, вясна-маці,*
*Хадзі к нам гуляці!*
*Хадзі к нам гуляці,*
*Карагод спраўляці!..*



Вадзіць вясеннія карагоды і заклікаць у іх вясну, дзяўчаты пачыналі са з'яўленнем першых пралесак. Гэта найбольш цікавы рытуальна-гульнёвы момант вясенняй абраднасці, які ўвасабляе сабой бясконцы рух жыцця і вечнай маладосці. Вясна — заўсёды маладая, вясёлая, жаданая ў народнай свядомасці параўноўвалася яшчэ і з дзявочай чысцінёй і прыгажосцю.

Заклікалі вясну кожны вечар да той пары, пакуль старэйшыя людзі не пачыналі араць зямлю.

Беларускія абрады гукання вясны вельмі багатыя на шматлікія песні, прыпеўкі, заклінанні, у якіх таксама знайшла ўвасабленне тэма любові да роднай зямлі і працоўнай дзейнасці чалавека.

Характэрнай з'явай абраду сустрэчы вясны ў беларусаў, рускіх і ўкраінцаў было выпяканне з цеста "жаваранкаў" — печыва ў форме птушак. У час выкананя песень-вяснянак гэтых "птушак" падкідвалі ўверх, імітуючы прылёт сапраўдных жаўрукоў, якія, паводле народных вераванняў, прыносілі з сабой вясну. Гэты звычай прымяркоўваўся да саракоў — каляндарнага свята, якое адзначаецца штогод 22 сакавіка. Лічылі, што ў гэты дзень прылятае сорак птушыных выраяў.

Аграрна-магічная накіраванасць у цэлым характэрна ўсёй вясенняй абраднасці і яе паэзіі. З прыходам вясны запасы ў сялянскіх засеках значна памяншаліся. "Прыгожа вясна ды галадна",— гаворыць народная прыказка. Нашы продкі, а па свайму роду заняткаў яны ў асноўным былі земляробамі, звязвалі з гэтым перыядам надзеі на будучы ўраджай і спрыяючую гэтаму пагодлівыя дні.

З вясновымі днямі былі звязаны многія сялянскія павер'і і прыкметы: калі сакавік сухі, у красавіку травы яшчэ не чакай, "калі ў марце жыта глядзіць на неба — не есці тагды хлеба", "сухі марац, мокры май — будзе жыта, як гай", калі на "саракі" быў марозны дзень, то чакалі яшчэ сорак маразоў, сухое надвор'е ад "грамніц" (народнае свята зімовага перыяду) да "саракоў" прадказвала засуху ў летні час.

Мы пазнаёміліся толькі з некаторымі абрадавымі дзеяннямі, што характэрны для гукання вясны і якія запісалі вучоныя на Беларусі ў XIX—XX стагоддзях. Магчыма, што першапачаткова ў нашых продкаў-язычнікаў гэта быў адзіны абрад, які дайшоў да нас у выглядзе асобных яго частак. На такую думку наводзяць песні заклічкі і шматлікія магічныя дзеянні, звязаныя з аграрна-гаспадарчай дзейнасцю чалавека. Пазней на характар вясенняй абраднасці значны ўплыў аказала хрысціянская рэлігія. Перапляценне старажытнейшых язычніцкіх і больш позніх хрысціянскіх поглядаў знайшло адлюстраванне ў многіх вобразах, сюжэтах і тэмах багацейшага цыкла вясенняй паэзіі.

**Ул. Сысоў,**
**малодшы навуковы**
**супрацоўнік**
**ІМЭФ АН Беларусі.**

Фотаэцюд Сяргея Брушко.

*Міфалогія*



# Багіня Мая



Мая — багіня маладосці. Функцыі яе ў гэтым у чымсьці супадаюць з функцыямі старажытнагрэчаскай Гебы і скандынаўскай Фрэі. Але яны былі толькі багінямі маладосці, а Мая — яшчэ і багіня вясны. Таму ў Маі больш шырокая сфера дзейнасці. Калі ж каму-небудзь з чытачоў яе імя здасца чымсьці іншаземным, "не нашанскім, не тутэйшым", то ў доказ таго, што гэта імя мае славянскае паходжанне, можна прывесці прыгожае паданне, прыдуманае невядома ў якія даўнія часы нашымі продкамі.

Калі юнаму Даждзьбогу настаў час выбіраць сабе каханую, ён загледзеўся з неба на бярозы, што цягнулі да яго свае галінкі-рукі і пажадаў, каб яго будучая жонка была такой жа прыгожай і пяшчотнай. Словы бога — закон. І сярод бяроз раптам з'явілася прыгажуня-багіня. Даждзьбог адразу закахаўся ў яе. Ён працягнуў да яе промні-рукі і сказаў: "Мая". Так новая багіня атрымала сваё імя. Падобнае ж па сугучнасці імя, занесенае да нас з-за краю свету, нават пры напісанні адрозніваецца. Яно пішацца з "й" (Майя). Дарэчы, у многіх рэгіёнах Беларусі (напрыклад, на паўднёвым усходзе Мінскай вобласці) гэту багіню называюць інакш — Вярба. Гэта даказвае толькі тое, што багіня маладосці і вясны народжана дрэвам. Толькі ў дадзеным варыянце яно было не бярозай, а вярбой. Больш таго, у Гродзенскай вобласці расказваюць, што позняй восенню, якраз перад самым прыходам зімы, багіня Мая прыходзіць у гай да сваіх сяброўак-бяроз. Яны журботна засыпаюць яе сваім пажоўклым лісцем. Мая павольна засынае і ў гэтым чароўным сне ператвараецца ў бярозу. Так, схаваўшыся сярод сяброўак, будзе спаць яна да таго часу, пакуль над зямлёю не скончыцца ўлада Зюзі. Калі ж зямелька прагрэецца пад сонечнымі промнямі, калі ў дрэвах заходзяць-загуляюць жыватворныя сокі, людзі выйдуць у палі, у лясы клікаць Маю на княжанне. На гэтым свяце (3 красавіка) яны паведамляюць аб тым, што прагналі Зюзю, што зямля чакае пасля зімовага сну-смерці прыходу вясны і новага жыцця. Свята гэта называецца "Гуканне вясны". (Цікава, што першапачаткова ў ім удзельнічалі толькі маладыя незамужнія дзяўчаты. Ды гэта і заканамерна, бо Мая — багіня-апякунка дзяўчат). Мая адгукаецца на гэты заклік і зноў ператвараецца ў юную прыгажуню-багіню. Яна працягвае рукі да свайго вечнага жаніха і мужа і ўзносіцца да яго.

І на зямлю прыходзіць вясна.

**Ірына Масляніцына,**
**Мікола Багадзяж.**




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№ 5 (195)



*Ліставанне*

**Марыне, Валі і іншым ананімным аўтарам з Оршы:**
Мы не можам весці дыялогу з тымі, хто пры знаёмстве не хоча адрэкамендавацца і баіцца падаць у лісце зваротны адрас. Прывітанне ад Мітхуна Чакраборці.

**Святлане С. (г.Касцюковічы):**
Зноў тая ж праблема — нас здзіўляюць дабрадзеі, якія змагаюцца за святую справу ананімна. Мы прызнаём адкрытую барацьбу і зусім не звяртаем увагі на стрэлы, выпушчаныя цішком пазавуголлю. "Да вы что, товарішчі?"

**А.Лейтману (г.Наваполацк):**
Алесь, калі артыкул пра групу "Куін", што ты змясціў у нас, убачылі яшчэ і ў газеце "Сарока", адразу зразумелі, што нашае супрацоўніцтва скончылася. "Нотны аркуш" заваяваў сабе добрае імя выключна арыгінальнымі публікацыямі і не можа давяраць аўтарам, якія скідваюць яго да ўзроўню дайджэста.

**Б.Аўдзіевічу (г.Віцебск):**
Сапраўды, Баніслаў, прыходзячы ў кінатэатр, мы — нярэдка свядома — спазняемся на прагляд кіначасопіса. Ды і часам глядзець там няма чаго. Але зусім нядаўна рэдакцыя дакументальных фільмаў кінастудыі "Беларусьфільм" парадавала рок-фанаў. Не, яны не знялі фільм пра "Уліс" альбо "Рокіс". Да гэтага яшчэ іхняя свядомасць не дарасла. Але ў адным з апошніх кіначасопісаў "Навука і тэхніка Беларусі" (№ 1, 1992 г.) у сюжэце,прысвечаным старажытным беларускім нацыянальным сімвалам — гербу "Пагоня" і бел-чырвона-беламу штандару, — аўтарам сцэнарыя Вадзімам Сукманавым і рэжысёрам Уладзімірам Марозам (па парадзе рэдактара Веранікі Пісарэнка) для музычнага аздаблення фільма была скарыстана песня гурта "Рокіс" "Пагоня". Магчыма, гэта і невялікая падзея ў сусветным маштабе. Толькі ў нас іншыя крытэрыі і іншае стаўленне афіцыйных установаў да свядомых рок-музыкаў. Таму не прапускайце болей кіначасопісы, бо рызыкуеце страціць сустрэчу з рарытэтам.

*Праблема*

# Аркестр "Менск" і ягоныя мецэнаты

У час, калі эканамісты і палітыкі не ведаюць, што рабіць (ці не ведаюць, што робяць), а грамадства цярпліва чакае хлеба надзённага ў шматлікіх чэргах — мала каго хвалюе лёс роднай культуры і мастацтва, амаль нікому няма справы да стварэння нечага новага, накіраванага на Адраджэнне нашай духоўнасці, нашай спадчыны. Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі казаў, што прыгажосць выратуе Сусвет, і ўжо даўно настаў той момант, калі трэба прыслухацца да яго слоў. Краіны, якія зрабілі гэта раней, сёння квітнеюць і дасылаюць нам дабрачынную дапамогу. А мы толькі збіраемся адрадзіцца.

Не чакаючы пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб пачатку Адраджэння нацыянальнай культуры, у верасні 1990 года нарадзіўся новы творчы калектыў — народны аркестр "Менск". Створаны ён дзякуючы намаганням творчага аб'яднання "Тэмп", акцыянернага таварыства "Круглая плошча" і дырыжора аркестра Генадзя Новікава. У складзе гэтага калектыву — таленавітыя музыканты-энтузіясты, у большасці сваёй — студэнты Беларускай кансерваторыі, у меншасці — былыя яе выхаванцы, якіх аб'яднала любоў да творчасці, да музыкі, да нашых славянскіх каранёў. І гэтая любоў наклала адпаведны адбітак на рэпертуар аркестра, дзе стаяць побач творы беларускіх кампазітараў, апрацоўкі беларускага фальклору і перакладанні скарбніцы сусветнага музычнага мастацтва.

У траўні 1991 года аркестр "Менск" быў адзначаны Дыпломам першага беларускага фестывалю "Студэнцкая вясна", які адбыўся ў Віцебску. Крыху пазней аркестр "Менск" на ўласныя сродкі (!) зрабіў запісы на радыё і тэлебачанні, але магнітафонным стужкам так і не ўдалося трапіць у эфір, каб знайсці свайго слухача і тэлегледача.

Вось так існуе гэты малады творчы калектыў. Іншы раз дае дабрачынныя канцэрты. Калі ласка, прыходзьце, людзі, слухайце, адпачыце душой, ды й не трэба плаціць грошы. Прыходзяць, слухаюць, дораць кветкі і шчырыя словы ўдзячнасці. Але ж балюча за мастацтва, калі бачыш, як сродкі масавай інфармацыі даюць зялёнае святло выпадковым і непрафесійным "зоркам" эстрады замест тых, хто аддана працуе на нацыянальнае Адраджэнне.

Я чую нечы голас: маўляў, гэтыя "зоркі" здольны зарабіць грошы не толькі для існавання, але і на рэкламу, на відэакліпы і г.д. Дазвольце не згадзіцца з тым, хто так мяркуе. Сапраўднае мастацтва заўсёды існавала і існуе дзякуючы мецэнатам і дзяржаўным датацыям. І калі б у маіх словах не было праўды, наўрад ці напісаў бы Іаган Себасцьян Бах, ды й не толькі ён, столькі бессмяротных твораў, якія жылі, жывуць і будуць жыць яшчэ доўгія і доўгія стагоддзі.

Аркестр "Менск" не чакае дапамогі ад улад, ад Міністэрства культуры і розных установаў. Добра, што знайшліся мецэнаты-фундатары, намаганнямі якіх былі набыты новыя музычныя інструменты, касцюмы і іншыя прылады для самастойных выступленняў. Дзякуючы мецэнатам удзельнікі аркестра маюць магчымасць атрымліваць невялічкую колькасць грошай (без купонаў), якая дапамагае як-неяк зводзіць канцы з канцамі. Але ж гэтая дапамога неўзабаве можа скончыцца, таму што ВС Рэспублікі Беларусь сваёй пастановай павялічыў падаткі з прадпрыемстваў, і мецэнаты аркестра — творчае аб'яднанне "Тэмп" і акцыянернае таварыства "Круглая плошча" таму не выключэнне. Папярэднія падлікі наступстваў гэтых падаткаў сведчаць аб немагчымасці далейшага фінансавання народнага аркестра "Менск".

Не ведаю, як у гэтым становішчы складзецца лёс маладога калектыву, але ўпэўнены: пакуль у Беларусі не будуць створаныя ўмовы для існавання мастацтва, аніякага адраджэння духоўнасці і культуры нам не бачыць. Застаецца толькі здзіўляцца, як у цывілізаваных краінах ахоўваюцца мецэнаты,што падтрымліваюць культуру. Яны абкладзены мінімальным падаткам і, напэўна, таму ў Злучаных Штатах у кожным маленькім гарадку ёсць асабісты прафесійны сімфанічны аркестр, не кажучы аб джазавых і г.д. Але ж гэта ў іх... А ў нас, у Рэспубліцы Беларусь, прафесійныя калектывы можна пералічыць па пальцах, і становішча гэтае не паляпшаецца. Наша кансерваторыя працягвае планавы выпуск будучых беспрацоўных музыкантаў. Будучых. А што сённяшнія? Спытайце на Камароўцы гарманіста: якую вышэйшую навучальную ўстанову ён скончыў? Гэтае ж пытанне можна адрасаваць тым, хто не можа ажыццявіць сваю мару і сядзіць у далечыні ад культурнага цэнтра і павольна співае.

Хочацца, вельмі хочацца верыць у тое, што некалі настане час узнясення Прыгажосці і Розуму Чалавечага над цемрай, бездухоўнасцю і абыякавасцю. Так хочацца гэта ўбачыць пры жыцці, каб нашчадкам не клясці нас за цяжкую Спадчыну. Можа, гэта трэба рабіць хутчэй, пакуль ёсць энтузіясты, сапраўдныя майстры і мастакі? Можа, не трэба душыць тых, хто сваім прадпрымальніцтвам дапамагае выжыць мастацтву? Можа, трэба больш увагі ўдзяляць такім маладым парасткам, як народны аркестр "Менск"? Можа, час ужо нам нагул Людзьмі звацца?..

Па-мойму, час!

Зміцер Даўгалёў,
кампазітар.

*Відэасалон*



З сакавіка ў менскім Доме літаратара адбыўся творчы вечар маладога беларускага кампазітара Зміцера Яўтуховіча.

Фота У.Панады.

*Спяваем па-беларуску*

**Прапануем вашай увазе адну з песень, якая ўваходзіць у рэпертуар народнага аркестра "Менск".**

## Бацькоўскі край

*Музыка Зміцера Даўгалёва* — *Верш Уладзіміра Пецюкевіча*




Бацькоўскі край — ты мой напеў шчымлівы,
Раздолле мар, памкненняў і надзей,
Дзе б я ні быў, тваё мне сняцца нівы
І казка-ноч, яснейшая за дзень.

Гарыць прастор Купальскімі агнямі,
У небе зор, бы ў жыце васількоў,
Іду на спеў дзявочы над палямі,
Нясу табе святло удзячных слоў.

*Прыпеў:* Бацькоўскі край — ты мой віток высокі:
І слых, і зрок, няўтольная любоў.
У час любы, у радасны ці горкі,
Жыве ва мне твой векапомны боль.

Няхай парой бывае горка-горка,
Шчаслівы я, што ёсць ты, любы край.
Шчаслівым быць — цудоўна, хоць нялёгка
Трымаць, як сцяг, бясхмарным небакрай.

Гарыць прастор агнямі Зорак вечных,
Званы звіняць — няма канца жальбе,
Іду на звон — да бацькі на сустрэчу,
Нясу яму падзяку за цябе.

*Прыпеў.*

*Гіт-парад*

# “ЛІХАДЗЕЯМ НА ЗЛО...”

*Штомесячны беларускі гіт-парад радыё "Свабода" ўжо спраўляе свой першы маленькі юбілей. 1 сакавіка г.г. у эфір выйшаў пяты ягоны выпуск. Пяць месяцаў стабільнага выхаду ў эфір разнастайных (паводле жанру) беларускіх зорак, дзве з паловай гадзіны цудоўнай музыкі (ад бардаўскай песні да трэш-метала) на нашай роднай беларускай мове. Сёння мы прапануем вам агляд лютаўскай гіт-парадавай пошты.*

•

Найперш нашу ўвагу прывабіў ліст з Гомеля. Ён шчыры, зацікаўлены, у ім ёсць зваротны адрас, імя або мянушка аўтара (Літа), нават нумар ейнага пашпарта, але няма прозвішча.

Мабыць, ты, Літа, сама спалохалася сваёй рэзкасці, але, дзякуй Богу, ты не апусцілася да асабістых абраз, таму не было чаго баяцца. А ў тым, што твае погляды не зусім стасуюцца з нашымі правіламі — нічога страшнага. Галоўнае, што ты шчыра выказалася пра гэта, выявіла і значную долю гумару, і сур'ёзную заклапочанасць лёсам адданых рыцараў нацыянальнай рок-сцэны.

Вось цытата з ліста гамяльчанкі Літы: "Шэлегу ламанага не каштуе ваш гіт-парад разам з "Рокісамі" ды "Улісамі". Ненавіджу "Новае неба"!!! Шкада, што ў вас на гіт-парадзе можна галасаваць толькі "за" (парушэнне дэмакратычных стасункаў). Калі б можна яшчэ і "супраць", дык я б усе свае крэўныя балы аддала супраць "Новага неба". Але адзнакі "супраць" няма, таму я ўсімі рукамі галасую за "Мрою", якая працуе плённа, актыўна і... з-за гэтага страчвае. Вы ж самі прызналіся: за кагосьці галасуюць адзінкі, ды за адну кампазіцыю, за тую ж "Мрою" — сотні, але за розныя творы. Вось і вынік: "Мроя" на дзевятым месцы".

Што ж, Літа, гіт-парад ёсць гіт-парад. Тут, як у латарэі, усё залежыць не ад аб'ектыўных акалічнасцей, а ад волі лёсу. Іншая справа — кожны з вас можа ўплываць на гэтую волю: шукаць аднадумцаў, будзіць іхнюю актыўнасць. А то ж ёсць такія рок-адраджэнцы, якія могуць толькі "пляваць у паталёк і плякаць", што іхні кумір не дасягнуў Алімпа.

А ёсць людзі іншыя, знешне сціплыя, але не крычаць, не рвуць на сабе кашулю, а проста цвяроза ацэньваюць сітуацыю і метадычна намагаюцца на яе ўплываць, не звяртаючы ўвагі на пабочныя акалічнасці. Вось, напрыклад, як А.Батанічаў з Лепеля: "Я наўрад ці мог бы паспаборнічаць у спрыце з вашымі ўдзельнікамі гіт-парада. Хутчэй за ўсё гэта пераважна юнакі і дзяўчаты ва ўзросце ад 15 да 20 гадоў. Я ж ужо махнуў на другую палову чацвёртага дзесятка. Яшчэ са школьнага часу любіў рок, не страціў цікавасці да яго, хоць наўрад ці мяне сустрэнеш цяпер у хаўрусе фанаў ля сцэны. На жаль, у наш час не было ні гіт-парадаў, ні тэлешоу, дый канцэртаў не гэтак шмат. З таго змрочнага часу я вынес сваё адкрыццё — нацыянальны рок у цудоўным абліччы "Бонды". Гэта застанецца са мною назаўсёды, бо адкрыла і мне вочы — а хто ж я такі? Ці толькі жыхар БССР? Вось таму і сёння, і заўжды на першую пазіцыю стаўлю песні "Бонды".

У вашых лістах, шаноўныя чытачы і слухачы, такая стракатасць, што душа радуецца: наш беларускі рок, поп-музыка, бардаўская песня — жывуць. І няма чаго крыўдаваць, калі пасля падліку агульных балаў ваш кумір не прайшоў або не дасягнуў прызавога месца. Усё можа памяняцца на наступным жа этапе. Дый увогуле: у нас апошні — не заўсёды горшы. Магчыма, для яго гэта першы шанц апынуцца "на



слыху", прагучаць у адзінай хеўры з прызнанымі зоркамі.

Лютаўская беларуская гіт-дзесятка радыё "Свабода" (№ 5) выглядае наступным чынам:

1. "Лязо"
*(В.Корань — Ф.Аксёнцаў). "Уліс".*

2. "Бяжы"
*(муз. і сл. С.Хамякова). "Ален".*

3. "Ліхадзеям на зло"
*("Грунвальд" — А.Дэбіш). "Грунвальд".*

4. "На станцыі Койданава"
*(І.Варашкевіч — А.Глобус). "Бонда".*

5. "Аксамітная вада"
*(І.Вайцяхоўскі — З.Лукашук). "Рокіс".*

6. "Гаспадыня ранішняй зоркі"
*(муз і сл. А.Камоцкага). Алесь Камоцкі.*

7. "Бюракрату з Дома ўраду"
*(муз і сл. В.Цярэшчанка). Вальжына Цярэшчанка.*

8. "Горад"
*(муз. і сл. калектыву). "Мроя".*

9. "Гэй, Нью-Йорк"
*(А.Хомік — Я.Максімюк). "Альбаросіка".*

10. "Поскудзь"
*("Дзіда" — В.Воліс, Л.Сом). "Дзіда".*

Канцэртны здымак цяперашняга лаўрэата (ім аказаўся "Уліс") мы публікуем сёння. А хто ж будзе наступны? — на гэтае пытанне адкажаце вы, даслаўшы лісты на адрас радыё "Свабода", або нам, у "Чырвоную змену".

**Вінцук Гуненка,
фота У.Панады.**

*Коратка*

## Прыз Полу Макартні і ... Летуве

Былы ўдзельнік гурта "Бітлз" Пол Макартні і тры дзяржавы Балтыі атрымалі і падзялілі наноў заснаваную штогоднюю музычную прэмію Швецыі ў памеры 4 млн. крон (690 тысяч даляраў) — прыз "Полар м'юзык".

Эстоніі, Латвіі і Летуве гэтая прэмія дасталася за развіццё музычнай культуры сваіх краін, Полу Макартні — кампазітару і артысту сусветнага ўзроўню — за творчы ўнёсак у папулярную музыку на працягу апошніх трыццаці гадоў. Усе лаўрэаты атрымалі па мільёну крон. Заснавальнік прэміі — менеджэр папулярнага гурта "АББА" і кампазітар С.Андэрсан.

**Ігар Міхно.
("Выбранецкая інфармацыйная служба").**





*Фанатэка*



### “МЯСЦОВЫ ЧАС”
### “УСКРАІНА”
### Студыя Гэнюся Шэмета, 1991

Полацкі рок-гурт "Мясцовы час" – адзін з нямногіх у Беларусі дзеячаў нефармальнага музычнага руху, які стабільна пастаўляе на дыскатэчны рынак арыгінальныя магнітаальбомы. Два з іх ужо анатаваліся ў "Нотным аркушы" (гэта "Слота", 1989 у "ЧЗ" ад 17.01.1992 г. і "Мой дом", 1990 у "ЧЗ" ад 14.11.1990 г.), цяпер чарга за трэцім.

Хоць пакуль так і не знайшлося фірмы, якая б растыражавала ў вініле гэты альбом, але многія кампазіцыі з яго, як кажуць, знаходзяцца на слыху: "Шлях дамоў", "Я жыў" і загаловачны твор неаднойчы паказваліся ў жывым канцэртным выкананні на тэлебачанні; "Далёкі свет", "Ноч" і "Час прыспеў" даволі часта гучаць па радыё.

Натуральна, гэтага інфармацыйнага прарыву "Мясцоваму часу" ўдалося дасягнуць дзякуючы цудоўнаму адчуванню гіта ўдзельнікамі калектыву, іхняму пільнаму клопату за якасцю гуказапісу, выканаўчым здольнасцям музыкаў.

Калі ў двух першых альбомах "Мясцовы час" грунтоўна выпрацаваў свой, толькі яму ўласцівы імідж, дык працаваць над трэцім пачаў з выразным усведамленнем патрэбнасці шліфоўкі, удасканалення ранейшых набыткаў.

Бадай, цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што "Мясцовы час" – марка надзейнай фірмы, сустрэча з якой гарантуе і добры адпачынак, і радасць адкрыццяў.

Праўда, пэўныя недарэчнасці ёсць і ў гэтым альбоме. Незразумелым застаецца статус песні "Ноч у Караліне", хоць яўна відаць ейнае прывілеяванае становішча: гэтая кампазіцыя вандруе з альбома ў альбом, займаючы свае 8 хвілін і ў "Слоце", і ў "Нашым доме", і ва "Ускраіне". Дапусцім, прыгожая блюзавая мелодыя можа прэтэндаваць на нейкія асаблівыя пачуцці, але тэматыка прымушае хіба што задумацца: "Ну што ім далася гэтая расавая сегрэгацыя ў Злучаных Штатах? Хіба гэтак ужо кепска тым чорным у цывілізаванай краіне, як нам тут, пад уладай разрухі, стрэсу, неталерантнай ідэалогіі?"

Зрэшты, гэтая недарэчнасць не гэтак важная для шырокага слухача, да якога здолеў дайсці гэты альбом. Здаецца, яго ўсё ж збіраецца перавыдаць фірма "Мелодыя", а зборы ейныя, як вядома, бываюць бязмежна доўгімі. Гурт, відаць, не хацеў, каб прыгожы блюз трапіў у ранг рарытэтаў з іншымі супергітамі першых альбомаў.



### “АМЕГА”
### “АБЛІЧЧА”
### Пепіта, 1981

Вось ужо тры дзесяцігоддзі радуе нас сваёй музыкай вельмі папулярны венгерскі рок-гурт "Амега". У 1962 годзе ён быў заснаваны, у 1969 распачаў сваю дыскаграфію (між іншым, не на радзіме, а ў Вялікабрытаніі, на фірме "Decca"). Многія ягоныя дыскі (як студыйныя, так і канцэртныя) разглядаліся раней у "Фанатэцы". Сёння аб'ектам нашай увагі стане, бадай, найбольш вядомы ў нашай краіне альбом "Амегі". Праўда, вядомы не з прычыны надзвычайнай якасці, а дзякуючы таму, што быў шырока прадстаўлены ў вольным продажы ў нашых музычных крамах. (Незабыўныя часіны, калі за 3 рублі можна было прыдбаць шыкоўны ўзор замежнай фанаграфічнай прадукцыі).

Калі да лепшых кружэлак, што падарыла слухачу натхненне гэтых венгерскіх музыкаў, звычайна адносяць "Амега-5", "Гамаполіс", "Зорным шляхам", дык альбом "Абліччa" можна лічыць найбольш гітавым. Ён так і нашпігаваны заваднымі, эмацыяа кампазіцыямі: "Зухаваты рок-н-рол", "Праца", "Гульні кахання"...

Цікава, што "Праца" (другая кампазіцыя на першым баку кружэлкі) і "Сумесь" (пятая – на другім) маюць адну і тую ж музыку, хоць і розныя тэксты. Гэта крыху парушае вядомую рок-н-рольную традыцыю, калі – гэтак мовячы – пад завязку альбома ў "Сумесі" сходзяцца ўсе ягоныя тэмы.

У гэтым альбоме гурт зноў выказаў сваю прыхільнасць да ўсходнеславянскіх жаночых імёнаў: калі памятаеце, другая назва кампазіцыі "Руская зіма" з альбома "Зорным шляхам" – "Лена"; дык вось тут (пяты твор з першага боку) ёсць кароценькая інструментальная п'еса "Насця". І гэта, дарэчы, адзіная інструменталка на ўсім альбоме.

Усе астатнія кампазіцыі напісаныя на вершы сталага тэкставіка рок-гурта "Амега" Петэра Сюлы. Музыка, як зазвычай, плён натхнення ўсяго калектыву.

Што да асабовага складу, дык у "Амегі" ён рэдка калі змяняўся. Зноў і зноў бачым у выхадных звестках Ласло Бенкё (клавішныя), Янаша Кобара (вакал), Ферэнца Дэбрэцэня (бубны), Тамаша Міхалі (бас-гітара), Дзьёрдзя Мольнара (лідэр-гітара).

Альбом "Абліччa" ("З думкаю пра цябе"), які з'яўляецца дзесятым у дыскаграфіі калектыву, запісаны пад пільным наглядам вопытнага гукарэжысёра Ласла Немеша. Мастацкая аздоба вокладкі (дарэчы, як заўсёды, вельмі імпрэсіўная, эфектная) належыць пяру (ці пэндзлю) Іштвана Н'яры. Шыкоўнасць гэтай аздобы падмацаваная яшчэ і выдатнай якасцю друку будапешцкай друкарні "Глобус".

Выпусціўшы альбом з двухбаковым афармленнем вокладкі, фірма "Пепіта" забяспечыла яго спецыяльнай устаўкай з вычарпальнымі выхаднымі звесткамі.



### “ПІНК ФЛОЙД”
### “АТАМНАЕ СЭРЦА МАЦІ”
### Гарвэст, 1970

Гісторыя рок-гурта "Пінк Флойд" (Вялікабрытанія) пачалася ў першай палове 60-х гадоў, калі Роджэр Уотэрс, Рычард Райт і Нікалас Мэйсан працавалі разам з Клівам Мэтсалфам як ансамбль "Сыгма сыкс". Пасля змянілі назву на "T-Set", потым на "The Architectural Abadaba", пакуль нарэшце, не сталі проста "The Abadabs". Як і многія нашыя пачаткоўцы, набівалі руку на чужым рэпертуары: Чак Бэры, "Ролінг стоўнз", "Кінкс". Пад канец 1965 года калектыў распаўся, а да вышэй названай тройкі далучыўся Роджэр Кэйт Барэт па мянушцы Сід. Менавіта ён быў вялікім фанатам блюза, а перш за ўсё – тагачасных ягоных зорак Пінка Андэрсана і Флойда Каўнсілема , чым і заразіў вельмі хутка сваіх новых сяброў. Цяпер чытачам, відаць, зразумела, адкуль паходзіць назва сусветна вядомага калектыву?

Гурт вельмі пільна сачыў не толькі за тым, што робіцца ў брытанскім року (тады ў гіт-спісах суцэльна панавалі Том Джонс, "Ролінг стоўнз", "Бітлз", патроху выпаўзалі "The Cream", "The Who"), але і за развіццём амерыканскай рок-сцэны. Дзякуючы гэтаму, напрыклад, "Пінк Флойд" стаў першым, хто на Брытанскіх астравах пачаў ужываць на канцэртах светлавое шоў. Выкарыстоўвалі таксама слайдапраекцыю з выявамі авангарднага жывапісу. І, варта адзначыць, ужо тады задачы рок-музыкі асацыіраваліся для іх не з задачамі бізнесу, а з задачамі мастацтва. Г.зн., уплыў на чалавечую свядомасць перш за ўсё. Для прыкладу, гурт рабіў дабрачынныя канцэрты, сярод якіх – на карысць змагароў Зімбабве, якая пакутавала тады пад дыктатурай Яна Сміта.

У тым жа 1967 годзе – першы сінгл, які выклікаў шквал пратэстаў. Адзін з каментатараў заявіў: "Такая бязглуздая музыка з амаральнымі тэкстамі нам непатрэбная", на што Сід Барэт адказаў у інтэрв'ю:"Нічога, яшчэ пабачым".

Што цікава, сама крытыка справакавала папулярнасць гурта, і дыскі (тады выйшаў цэлы ЛП "Дудар ля брамы золку") разыходзіліся імгненна. Тады падключылася і выдавецтва "Пінгвін букс", выпусціўшы кнігу з тэкстамі Барэта. Ён аказаўся ўсім патрэбным.

Альбом "Атамнае сэрца маці" з'яўляецца сёмым лонгплэем у дыскаграфіі калектыву. І хоць да сапраўднага, трывалага поспеху быў яшчэ кавалак дарогі, хоць пакуль гурт зазнаў толькі славу скандалістаў і эксперыментатараў, і ў гэтым альбоме ёсць і цікавыя меладычныя рашэнні, і тэматычныя знаходкі.

*За мальбертам*

# МАЛЮНКІ СВЕТЛЫХ ЭМОЦЫЙ



– Усе дзеці ў душы мастакі, і перадаваць свае пачуцці і перажыванні ім лягчэй на паперы, – да такога выніку прыйшоў за 20 гадоў працы ў студыі выяўленчага мастацтва Дома піянераў і школьнікаў Першамайскага раёна Мінска яе кіраўнік Рышард Антонавіч Май. Яго першыя вучні ўжо самі сталі бацькамі. Ёсць сярод іх і тыя, хто так ці інакш звязаў сваё жыццё з мастацтвам.

Але галоўным для мастака заўсёды было навучыць дзяцей ахопліваць розумам разнастайнасць навакольнага свету. Таму так цікава, сятточна праходзяць усе ягоныя заняткі, на якіх хлопчыкі і дзяўчынкі захоплена слухаюць музыку і паэзію, чытаюць казкі, выліваючы на белыя лісты паперы свае фантазіі.

Сапраўды, работы вучняў Р.А.Мая заўсёды незвычайна каляровыя, арыгінальныя па выкананню і аранжыроўцы. Гэта малюнкі спакою, светлых эмоцый, душэўнай цеплыні і шчодрасці – якасцей, якія адзначаюць усе, хто бачыў працы на шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных выставах, арганізаваных у Польшчы, Канадзе, Бельгіі, Японіі, Галандыі.

Для многіх рабят студыя стала другім домам, дзе перажылі яны дзіўныя моманты спасціжэння творчасці. Міне час – і гісторыя паўторыцца зноў. У студыю прыйдуць іншыя хлопчыкі і дзяўчынкі, у кожнага з якіх будзе ўкладваць сваю душу і імкнуцца развіць іх здольнасці Рышард Антонавіч.

Фота У.Шубы.

*Што напісана пяром...*

*Не паспелі адысці ў гісторыю леташнія ўступныя экзамены, як набліжаецца новае лета. Хто ты, абітурыент-92? З трапяткой надзеяй чакаюць цябе ў ВНУ рэспублікі. Тое, што не заўсёды гэтыя чаканні і надзеі апраўдваюцца, бачна з ніжэйпададзенай падборкі. Шчыра жадаем, каб цябе абмінула гэта чаша. І напрыканцы парада: калі нічога смешнага, нягеглага, няверпага ты ў гэтых урыўках не знойдзеш — не спяшайся паступаць. Ёсць над чым падумаць.*

# "Горкага і Леніна звязвала мужчынская любоў"

## З уступных сачыненняў 1989–1991 гадоў

Лабановіч жыў у цяжарныя часы царызму.

Пячорыну сумна ў савецкім грамадстве.

Базараў рабіў вопыты, парыраваў жаб.

У тургенеўскага героя ёсць шмат прывабных якасцей, але ёсць і недахопы. Увесь час Базараў працуе.

Андрэй Балконскі зрабіў Напалеона сваім кулонам.

Андрэй Балконскі ляжаў пад бясконцым небам Аўстэрліца і займаўся самазадавальненнем.

Наташы Растовай быў патрэбен муж у гэтую ж хвіліну.

Дзікі памешчык не хацеў дыхаць паветрам, якое было прапітана народам.

Знаёмы Ізергіль Данка вывеў людзей з цемры.

Павел Уласаў па святах вяртаўся дамоў п'яны, але гэта яго не задавальняла.

Павел Уласаў не мог піць, яго нудзіла, таму ён стаў рэвалюцыянерам.

Павел Уласаў вымавіў на сходцы словы, але яны яшчэ не даходзяць да сэрцаў рабочых. Пасля гэтага Павел паказаны п'яным.

Павел Уласаў адданы справе барацьбы да апошняга канца.

Максіма Горкага і Леніна звязвала не толькі моцнае сяброўства, але і мужчынская любоў.

Блізкія людзі Уладзіміра Ільіча былі гатовы аддаць жыццё, каб толькі схаваць лістоўкі, якія напісаў Ленін.

Уладзімір Маякоўскі прысвяціў Вялікаму Кастрычніку твор "Місцэр Буф".

Павел Карчагін быў хворы, разбіты, сляпы, але самы шчаслівы.

Нагульнаў да Лушкі падыходзіў з пазіцый антыўладальніка, дазваляў весці ёй разгульны спосаб жыцця.

Нагульнаў развёўся са сваёй жонкай Лушкай, таму што зразумеў, што не зможа давесці з ёй пачатую справу да канца.

Размётнаў ваяваў за рэвалюцыю. Жонка яго не вытрымала ганьбы, пакончыла з сабой.



Камсамольцы будавалі горад Байкал-на-Амуры.

Там, дзе нічога не было, стала ўсё, а дзе было ўсё — стала яшчэ больш!

Гітлераўцы здзекаваліся з насельніцтва: прымушалі працаваць.

Вось з якімі баявымі подзвігамі знаёміць нас пісьменнік Закруткін: мы сустракаемся са скромнай цяжарнай жанчынай.

Ён пахіснуўся і паваліўся. Так робіць рускі салдат.

Жэнька Сталетаў любіў людзей; аб гэтым сведчыць той факт, што ў яго ў пакоі віселі фатаграфіі неграў.

Ці можна не кахаць гэту зямлю, дзе зімой мароз да 40 градусаў, а летам немагчыма дыхаць?

Афганістан — краіна цудаў: пайшоў у кішлак — і там знік. Каб не знікнуць, трэба вучыцца.

Я вырашыла абавязкова працаваць у дзіцячым садзе, выхоўваць дзяцей і з юных гадоў садзейнічаць іх фізічнаму і гарманальнаму развіццю.

Падрыхтаваў В.Каваленка, выкладчык МДПІ імяГоркага.

*Галопам па Еўропах*



У Амерыцы школьнікі вельмі самастойныя. Яны могуць бегаць да пасінення, прычым займацца гэтым без усялякіх трэнераў і настаўнікаў. На ўроках у школе ніхто нікому не падказвае, кожны сам за сябе. Што такое шпаргалка, амерыканскія школьнікі таксама не ведаюць. Гэта, праўда, не пазбаўляе іх радасці ад наведвання бараў і дыскатэк.

У Чэха-Славакіі вучні, што вывучаюць рускую мову, вымушаны чытаць тэксты накшталт "Газапravод "Саюз" і рускую вучыць усё меншая колькасць школьнікаў.

Цяжка даводзіцца вучням прыватных школ Англіі. Жывуць яны ў інтэрнатах, адкуль забаронены выхад, дзе не дазваляецца курыць і не кормяць вячэрай. А дзяўчаты-аднакласніцы жывуць у такім жа замку на супрацьлеглым канцы горада.

У Фінляндыі вучні ходзяць па школе басанож. У перапынках паміж заняткамі падлогу пыласосяць. Школы займаюць як наземную, так і падземную тэрыторыю.

*Чарнобыль. Каму — боль, каму — нажыва*

*Мы жывём у непасрэднай блізкасці ад рэактара, побач з намі — калючы дрот, што аддзяляе ад "зоны". Кожная другая хата ў Брагіне апусцела. На месцы навакольных вёсак — пустыя ўзгоркі, бы магілкі, ды там-сям старыя яблыні, як помнікі загінуўшым. Самі дрэвы таксама паступова гінуць, іх высахлае галлё тырчыць, нібы закарузлыя пальцы. Пуста, страшна... Ледзьве супакойваю сябе думкамі аб тым, што не ўсе з'ехалі, памерлі.*

# Злачынцы ў белых халатах

У нашай вёсцы яшчэ пульсуе жыццё, людзі кожную раніцу спяшаюцца на працу. Калі па шчырасці, усе яны ведаюць, што хадзіць па гэтай сцежцы нельга — яна "зашкальвае" нават пасля дзэактывацыі. Напачатку я асцерагалася тут з'яўляцца, а пасля абыякавым да ўсяго становішся... вось ужо і я разам з іншымі шпарка бягу па гэтай сцежцы, бо ўсё абрыдла. Разумееце, проста рукі апускаюцца. У 86-м годзе былі прыняты часова дапушчальныя нормы ўтрымання радыеактыўных рэчываў у прадуктах харчавання. Да сённяшняга дня так і існуюць гэтыя нормы, хаця іх даўно трэба было змяніць, бо яны ж "часовыя". Ды і хто з маіх землякоў зараз правярае тыя прадукты са свайго гарода і малако ад уласнай рагулі?

Працяглае ўздзеянне малых доз радыяцыі не вывучана, а нашым хлопчыкам і дзяўчаткам патрэбна ў недалёкім будучым стварыць свае сем'і, нараджаць дзяцей. Ужо зараз з'яўляюцца на свет дзеці з яскрава выяўленай паталогіяй, а што будзе надалей?

І што ж... Знайшліся людзі, якія вырашылі нажыцца на людскім горы. Значная частка дапамогі, прызначанай для дзяцей шматпакутнага Брагінскага раёна, што апынуўся ў палоне радыяцыі, трапіла ў брудныя рукі зладзеяў. У той час, калі няма лекаў для хворых дзяцей, вялізныя пачкі антыбіётыкаў, сарбентаў, вітамінаў і іншых медыцынскіх прэпаратаў былі прыхаваны на кватэры медыцынскай сястры Р. Злачынца ў белым халаце выкрала прадуктаў харчавання і медыкаментаў 159-ці (!) найменняў на суму звыш 45 тысяч рублёў. Чаго толькі няма ў гэтым сховішчы: дзесяткі скрынак мясной тушонкі, на якіх напісана: "Европейское общество — детям потерпевших районов"; дзіцячыя кансервы з пладаагароднінным пюрэ, джэмы, пачкі з шакаладнымі цукеркамі, пернікі і вітамінізаваныя сокі ў рознай ёмістасці слоіках і слоічках.

Не адстаў ад медсястры і галоўны ўрач Брагінскай райбальніцы П. Зараз гэтыя людзі знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрымання. Дык вось, П. атрымаў кватэру ў Мінску, там жа знаходзіцца яго жонка. Вобыск праводзіўся адразу ў двух месцах — у Мінску і Брагіне. Знойдзена 7 упаковак — па 150 бляшанак у кожнай — мясных кансерваў з Італіі; напітак "Кава" — 38 бляшанак, 44 плиткі шакаладу; вострадэфіцытныя лекі — лідаза, абляпіхавы алей; партатыўны кардыёграф — усяго 74 найменні на суму больш чым 40 тыс.рублёў. Сярод нарабаванага таксама — тысячы аднаразовых шпрыцаў, дзесяткі ўпаковак са стэрыльнымі тампонамі і сотні — з лейкапластырам, бутэлькі са спіртам і рыбіным тлушчам, скрынка, запоўненая дазіметрычнымі прыборамі. І ўсё гэта спісвала сястра-гаспадыня ў белым халаце на тых, у каго павялічана шчытападобная залоза, паслаблены імунітэт, былая галоўная медсястра Х., якая цяпер у водпуску па догляду дзіцяці. У яе знойдзена "тавару" на суму больш як 5 тыс.рублёў.

Асобна складзены пуховыя коўдры, пасцельная бялізна, прызначаная для мнагадзетных сем'яў і дзяцей-сірот. Ну, а ўжо шпроты, ікра чырвоная і чорная, мясныя кансервы, сокі знойдзены ў кватэры Ш., загадчыцы аднаго з дзіцячых садкоў у Брагіне.

Так "раскошна" было пастаўлена расцягванне той дапамогі, якую па малых кроплях, па драбніцы збіралі для нас людзі ўсёй планеты — немцы, чэхі, італьянцы, палякі, венгры, японцы, аўстрыйцы, прычым, ад шчырага сэрца: не старыя, пакарыстаныя анучкі і рэчы, а новае, бліскучае, з зіхатлівымі замежнымі наклейкамі.

Акрамя ўсяго гэтага дабра, знойдзены 150 пасведчанняў "удзельнікаў ліквідацыі на ЧАЭС" з чыстымі бланкамі (! — ад рэдакцыі). Адразу можна сказаць, што гэтыя дакументы не дайшлі па прызначэнню — сапраўдным героям, а за вялікія грошы трапілі ў рукі прайдзісветам. Што болей усяго ашаламляе, дык гэта памеры нарабаванага. Нічым не грэбавалі бессаромнікі!

А цяпер давайце зірнём на гэтыя факты з іншага боку. Як здарылася, што гуманітарная дапамога апынулася ў несумленных руках? Дзе было наша раённае кіраўніцтва, калі паступала гэтая дапамога? Хто вядзе ўлік і кантроль за тым, колькі і чаго даслана на раён, як размеркавана, каму? Хто клапоціцца пра хворых людзей пенсіённага ўзросту, магчыма, і для іх можна было частку харчавання і лекаў выдзеліць?

Няхай бы яе наогул не было, гэтай гуманітарнай дапамогі. Што мелі з яе звычайныя людзі? Мама мая ўвесь гарачы час, пачынаючы з выбуху на станцыі ў 86-м годзе, знаходзілася на партыйнай рабоце ў сектары ўліку. За шэсць гадоў ёй не выдзелілі ніводнай пуцёўкі ў санаторый, не прапанавалі ніводнай паездкі за мяжу. І ў той час, калі многія партыйныя босы пакідалі раён, яна працавала. А цяпер усе "ўцекачы" ў Мінску з пасведчаннямі ліквідатараў, а яна засталася без кватэры і без пасведчання, і ёй яшчэ тры гады да пенсіі, у той час, як мужыкі ўжо ў 45 пенсіянеры.

А можа, у лепшым становішчы перасяленцы з вёсак Залессе, Рытаў, Глухавічы, Нудзічаў, якія жывуць у нашай вёсцы, паездзіўшы па ўсім свеце? Мо хоць адна сям'я атрымала бясплатныя імпартныя лекі або гуманітарную пасылку (а гэта ўжо амаль усе састарэлыя людзі). Які сорам, што на гэтых людзей ніхто не звяртае ўвагі. Ворагу не пажадаеш жыць у нашым раёне.

Што яшчэ можна сказаць аб гэтай гісторыі з крадзяжамі? Рэакцыя на гэтае здарэнне розная: адны смяюцца, другія шэпчуцца, трэція гневаюцца. А я, паверце, плачу. Гэта ж не магу нават уявіць сабе. Яны кралі ў нашых дзяцей, у маіх дзяцей, якія з 86-га года сядзяць у гэтым пекле — бледныя, заморaныя, са шматлікімі хваробамі. Няхай бы хоць па калядному падарунку адшкадавалі хворым дзецям! Хутка 26 красавіка, змрочны юбілей; застаецца толькі павіншаваць кожнага з новым Чарнобыльскім годам.

**Наталля Чарнабай,**
**Гомельская вобл.,**
**Брагінскі раён,**
**в.Чамярысы.**




ДЗЕТКАМ ЧАРНОБЫЛЯ

Разбіта люстэрка...
Быццё, што яно
адбівала,
пра-па-ла, рас-та-ла.
Разбіта люстэрка...
Асколкі люструюць
самотна —
Струну, павуцінку,
дрот колкі.
Журботна...

Калаж і тэкст
Алены Агібалавай.



# "ПРЫГАЖОСЦЬ ЗАЎСЁДЫ ЭРАТЫЧНАЯ"




*Нягучны, мяккі голас. Асцярожны погляд з-за шкла акуляраў, няспешныя, стрыманыя жэсты. І, тым не менш, незвычайная скрытая сіла, велізарны патэнцыял унутранай энергіі. Я не здзівіўся, калі ён сказаў:"Я ж, па сутнасці сваёй,— дыктатар, агрэсар..."*
*Рэжысёр Рыд Таліпаў.*

Тры гады таму ў Мінску з'явіўся новы тэатр-студыя. "Тэатр на Круглай плошчы" пад кіраўніцтвам Рыда Таліпова. Як да ўсякай навізны, да яго аднесліся са скептычнай зацікаўленасцю: чым, маўляў, здзівіць нас гэты чарговы невядомы талент з дзіўным, нязвыклa кароткім імем Рыд? "Картатэка" Радзінскага, "Яма" Купрына, "Стрыптыз" Мрожака. У Беларусі не засталося, напэўна, ніводнага трывалага выдання, якое б абышло ўвагай гэтыя спектаклі. Яны бударажылі ўяўленне сваёй скандальнасцю, нязвыклай экзотыкай. Нямногія іх разумелі, але шмат хто імкнуўся выказаць сваё меркаванне. У цесным коле. Мала аб кім з тэатральнага свету Мінска хадзіла калі-небудзь столькі чутак. І далёка не ўсе яны былі падобны на бяскрыўдныя анекдоты...

Нядаўна Таліпаў вярнуўся з Аўстрыі, дзе ставіў свой новы спектакль па п'есе Жана Жанэ "Служанкі". Прэм'ера мела каласальны поспех.

*— Так, паўтара месяца вельмі напружанай працы не прайшлі дарма. Хаця, праўду кажучы, спачатку, калі толькі пачаліся першыя рэпетыцыі, я знаходзіўся ў нейкай разгубленасці: чорт пабяры, думаў, чым можна здзівіць гэтых здаволеных капіталістаў? Можа быць, адыграла сваю ролю тое, што я больш чым месяц знаходзіўся ў адным з самых прыгожых куткоў Еўропы. Аўстрыя — радзіма Моцарта, каб апісаць гэтую краіну, не хопіць ніякіх слоў. Яе можна параўнаць, можа, з водарам ружы.*

Першай справай, як толькі Таліпаў прыехаў у Вену, ён наведаў дом-музей Зігмунда Фрэйда. Уражанне – незабыўнае. Ён удыхнуў атмасферу, убачыў абстаноўку, у якой працаваў вялікі вучоны, чыя дзейнасць аказала такі велізарны ўплыў на ўсю творчасць Таліпава.

**— Рыд Сяргеевіч, а чаму менавіта "Служанкі" Жана Жанэ?**

*— Па задуме аўтара п'есы, усіх трох гераінь у "Служанках" павінны іграць мужчыны. Гэта адпавядае самым старажытным традыцыям тэатральнага мастацтва. Мая даўняя мара — паставіць адну з драм Шэкспіра так, як ставілі ў тыя часы ў тэатры "Глобус", калі акцёрамі маглі быць толькі мужчыны. Напрыклад, як у кітайскім тэатры "Кабукі". Усім вядома, што ён стварае сапраўдны ідэал жаночага вобраза, хаця ўсе жаночыя ролі ў ім іграюць мужчыны. Гэта сапраўднае мастацтва. Людзі не павінны глядзець спектакль і параўноўваць яго з тым, што адбываецца за акном, з паўсядзённасцю. Сцэна — гэта асаблівы свет прыгажосці, дзе жыве зусім іншая рэальнасць. Рэальнасць унутранага свету чалавека, яго жаданняў і мар.*

Спектаклі Таліпава – гэта няўлоўная мяжа, нябачная рыса паміж рэальным і падсвядомым. Малюнак у некалькі кароткіх, гранічна дакладных ліній. Ён прыцягвае да сябе нейкай скрытай у ім загадкавай тайнай і палохае нечаканым разуменнем таго, што гэта – Адкрыццё...

*— Для мяне мастацтва рэжысёра грунтуецца на дзвюх платформах. Гэта філасофская канцэпцыя спектакля і яго эстэтыка. У сваіх пастаноўках я імкнуся як мага ярчэй выразіць, стварыць, паказаць пагранічную сітуацыю ў жыцці чалавека. Момант, калі ён павінен зрабіць выбар, прыняць нейкае рашэнне, глабальна важнае для свайго далейшага жыцця, альбо пайсці, напрыклад, на здраду і выжыць або скончыць з сабой.Прычым, я не імкнуся ні ў тым, ні ў другім выпадку паказаць нейкія свае адносіны да гэтага выбару. Не імкнуся асуджаць ці наадварот. Мая мэта — паказаць чалавека, яго складаны ўнутраны свет, напоўнены супрацьлегласцямі і парадоксамі. Не важная ацэнка ўчынку, важная яго шчырасць. Тут вялізнае значэнне мае не толькі ігра акцёраў, але і дэкарацыі, усе падрабязнасці касцюмаў, святло, музыка. Усё гэта я раблю сам. Самая малая памылка ў тым жа светлавым афармленні, затрымка на імгненне промня пражэктара можа ўнесці ў дзеянне дысананс, які сапсуе ўсю пастаноўку.*

**— Вы працуеце ў нязменна трохкаляровай гаме. Усе дэкарацыі і касцюмы ствараюцца на аснове чырвонага, белага і чорнага колераў...**

*— Кожны з іх мае для мяне сваё асаблівае, філасофскае значэнне. Чырвоны сімвалізуе жыццё, з усімі яго моцнымі пачуццямі, жаданнямі, амбіцыямі і супярэчнасцямі. Белы — гэта чалавечыя мары, вера ў нешта светлае, чыстае, надзея, пастаяннае чаканне шчасця. Чорны колер — сімвал нараджэння і смерці, сімвал таго, што пачатак ужо ёсць канец. Кожнай сваёй пастаноўкай я імкнуся расказаць аб тым, што я ведаю. Трэба разлічваць кожную дэталь, кожную дробязь, нюанс, каб не страціць пачуццё меры і густу, каб захаваць раўнавагу.*

**— Рыд Сяргеевіч, у вашых пастаноўках шмат эротыкі. Якую ролю адыгрывае, на ваш погляд, эротыка ў тэатральным мастацтве?**

*— Мастацтва павінна быць эратычным. Тым больш тэатр. Гэта мера пачуццяў мастака, трэцяя, чацвёртая рэальнасць, дзе ўладарыць прыгажосць. А прыгажосць заўсёды эратычная.*

...Я ў гасцях у Таліпава, у маленькай цеснай кватэры на апошнім паверсе хрушчоўскай пяціпавярхоўкі. Паліцы з мноствам кніг, глуха зашторaныя вокны, некалькі невялікіх карцін на абклееных жоўтымі шпалерамі сценах. Пастаянна звоніць тэлефон. Уражанне нейкага часовага жылля, быццам гаспадар забег сюды захапіць самае неабходнае і вось-вось памчыцца на вакзал, каб зноў ехаць некуды надоўга.

*— Я, як гэта ні дзіўна гучыць, помню сябе з трохмесячнага ўзросту,— усміхаецца Рыд Сяргеевіч.— Неяк зімой, у студзені, мама пайшла са мной у госці да аднаго знаёмага пісьменніка. Я памятаю да самых дробязей гэтую маю вандроўку. Санкі, у якіх яна мяне вязла па тратуары, кватэру, дзе жыў знаёмы, як мяне разглядалі, разгортвалі коўдру, фатаграфавалі. Што самае цікавае, у той кватэры я быў у першы і апошні раз — пісьменнік хутка памёр, але, калі я ва ўсіх дэталях апісаў маці яго кватэру, яна са здзіўленнем сказала, што яна на самай справе выглядала тады менавіта так. Я рана навучыўся чытаць. І ўжо ў пяць год чытаў свайго любімага Марка Твэна. Я настолькі закахаўся ў яго герояў, што стаў сушыць сухары, збіраць дробязі, знайшоў недзе маленькі чамаданчык і парасон, з якімі паспрабаваў збегчы з хаты ў Амерыку, да Тома Соера і Гека Фіна. Аднак з-за неспрыяльнага надвор'я мне так і не давялося дабрацца да Новага Свету.*

У рэжысуры Таліпаў сябе спрабаваў яшчэ ў пачатковых класах сярэдняй школы. У яго тады была трупа з пяці чалавек, у якую ўваходзіў і ён сам. Тры хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Яны ставілі "Атэла" і "Рамэо і Джульету". Хадзілі па кватэрах і паказвалі суседзям. У трынаццаць год Рыд упершыню пазнаёміўся з работамі Станіслаўскага. А ў дзесятым класе, калі яму і яго аднакласнікам раздалі канверты з лістамі паперы, на якіх яны павінны былі напісаць, кім бачаць сябе праз дзесяць гадоў, Рыд паабяцаў, што паступіць вучыцца ў вучылішча імя Шчукіна і стане рэжысёрам...

Так, прынамсі, і здарылася. Хоць спачатку была вучоба ў Маскоўскім універсітэце мастацтваў на аддзяленні малюнка і жывапісу, потым два гады працы асістэнтам рэжысёра на Свярдлоўскай кінастудыі, вучоба ў музычным вучылішчы і, урэшце, курс Сіманава ў Шчукінскім.

Аднак лёс яшчэ не спрыяў тэатральным пачынанням маладога Таліпава. На жаль, часы былі яшчэ тыя, і што хацелася ставіць яму, не хацелася бачыць нікому іншаму. Прыходзілася перабівацца самадзейнасцю, праўядзеннем свят, адным словам, культурна-масавай работай. Але бліснула іскарка надзеі. Масква. Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва, курс Анатоля Эфраса. Вучоба. Дыплом. І... зноў самадзейнасць.

Толькі ў 1987 годзе, прыехаўшы ў Мінск, Таліпаў у рэшце рэшт знаходзіць сябе і сваю справу. Ён арганізоўвае тэатр-студыю.

*— Я не люблю гаварыць пра мінулае. Навошта варушыць старыя няўдачы, поспехі. Для мяне галоўнае — сёння. Мая творчасць, мая работа. Гэта адзінае, што мае для мяне сэнс. І ўсё, абсалютна ўсё ў маім жыцці падначалена рабоце, тэатру.*

Таліпаў варыць на кухні каву і злуецца, што сёння яму прыйшлося дзве гадзіны прастаяць за кормам для папугая.

*— У Вене я ўсім гаварыў, што ў мяне тут вялізная пяціпакаёвая кватэра (там менш чым сто квадратаў — ужо не кватэра, а нешта накшталт нашага інтэрната). Не хацелася, каб яны думалі, што мы такія вось жабракі. Там я мог сабе дазволіць заказаць парык для спектакля ў Берліне ці Парыжы, а калі яны мне не падабаліся, адасланць і патрабаваць замены. Ну гэта так, дробязі. Мяне, шчыра кажучы, усё гэта бытавое бязладдзе не так ужо і трывожыць, абы працаваць не перашкаджалі. Вось толькі папугая шкада, памрэ з голаду.*

Потым мы глядзелі відэазапіс прэм'еры "Служанак" у Аўстрыі. Рыд Сяргеевіч расказваў, як аўстрыйскія акцёры спужаліся спачатку агрэсіўнасці яго рэжысёрскага метаду і дыктатарскіх замашак. Пасля прэм'еры Таліпаў атрымаў мноства прапаноў аб пастаноўках у тэатрах Аўстрыі, яго запрасілі выкладаць курс тэорыі і практыкі тэатральнага мастацтва ў Моцарт-акадэміі. Зараз ён заняты падрыхтоўкай спектакля "Каварства і каханне" па Шылеру, які хоча паставіць на вялікай сцэне, у адной з залаў Мінска.

Аляксей Краўчанка.

*Мёртвая зона*

# "Парушэнняў не выяўлена"...

## Як "Чырвонку" на зону "не пушчалі"

У мінулым годзе ("ЧЗ" №№ 44, 45) "Крымінальнае бюро" надрукавала нататкі асуджанай Т.Раскінай з Гомельскай жаночай калоніі, у якіх расказвалася пра негуманныя адносіны адміністрацыі калоніі да зняволеных і іх родных. У адказ амаль адразу прыйшло некалькі абуральных лістоў ад іншых асуджаных, якія абаранялі сваё кіраўніцтва ("ЧЗ" № 52). А не так даўно пошта прынесла і афіцыйны адказ і з Гомельскай абласной пракуратуры:

*"Па даручэнню Пракуратуры Рэспублікі Беларусь у сувязі з выступленнем газеты "Чырвоная змена" аб прыгнёце асуджанай Раскінай Тамары Мікалаеўны прадстаўнікамі адміністрацыі ППК-4 зроблена праверка. Па выніках праверкі Вам прадстаўляецца інфармацыя..."*

Далей у лісце ідзе адмоўная характарыстыка Раскінай, на падставе якой намеснік пракурора вобласці Н.Капульцэвіч робіць вывад: *"...у дзеяннях адміністрацыі ППК... парушэнняў закона не выяўлена".*

На гэтым, бадай, можна было б паставіць кропку: ну, не сышліся адміністрацыя калоніі і рэдакцыя ў поглядах на тое, што лічыць "парушэннямі" правоў асуджаных, бывае. Аднак да нас трапіла яшчэ адно запозненае пісьмо з гэтай жа калоніі — ад асуджанай Г.Лабацкай. Вось урывак з яго:

*"Шаноўная рэдакцыя!*

*Паважаны загадчык "Крымінальнага бюро" Павел Сіманаў!*

*Мы ўдзячны вам за тое, што "ЧЗ" упершыню справядліва паказала жыццё асуджаных. У мінулым годзе "ЧЗ" надрукавала лісты з жаночай калоніі. Асуджанымі гэтыя матэрыялы ўспрыняты як рэальнае праяўленне галоснасці. Але была і іншая рэакцыя — нашых начальнікаў — вельмі негатыўная. Асабліва на публікацыю ліста Тамары Раскінай. Безумоўна, спрацаваў прынцып абароны гонару мундзіра...*

*Оперчасць калоніі зрабіла ўсё, каб не прапусціць "крамольныя" нумары "Чырвонай змены" ад 31 кастрычніка і 6 лістапада на зону. Усе газеты, што выпісваюць асуджаныя, адбіраліся супрацоўнікамі оперчасці. Оперупаўнаважанаму Ч. было даручана заняцца адказнай справай вельмі "далікатнай": даглядам усіх газет, якія ідуць у калонію.*

*Больш таго, выразкі з тых нумароў "Чырвонай змены", што дасылалі родныя і знаёмыя асуджаных, па загаду оперчасці адбіраліся з пісьмаў цэнзарам. Такім чынам, доступ "ЧЗ" на жаночую зону быў поўнасцю перакрыты. Асуджаныя так і не ўбачылі гэтыя нумары газеты...".*

Паўстае пытанне: ці магло быць такое ў наш час? І калі было, дык што гэта — таксама не "парушэнне"? Чаго ж тады баялася адміністрацыя калоніі, абвясціўшы "крамольнай" нацыянальную маладзёжную газету, калі была ўпэўнена ў сваёй слушнасці?

З надзеяй атрымаць адказы на гэтыя пытанні мы перасылаем копіі поўнага ліста Г.Лабацкай у абласную пракуратуру і калонію.

Вядучы
"Крымінальнага бюро".

Фота С.Плыткевіча.



# Дапамажыце...

Звяртаюся да вас, таму што тлее ва мне маленькая надзея на чалавечую міласэрнасць, спачуванне і спагаду.

Зараз я адбываю пакаранне ў месцах пазбаўлення волі ў горадзе Гомелі. Была асуджана ў 1990 годзе да 10 гадоў. Так, я ажыццявіла злачынства і павінна поўнасцю загладзіць сваю віну. Нават і ў думках ніколі не апраўдваю сябе. Адзінае, чым жыла і дыхала, што было, ёсць і будзе самым каштоўным на гэтай грэшнай зямлі, — дзеці. Гэта была тая маленькая ніточка, якая яшчэ дарыла надзею, дапамагала жыць і пераадольваць цяжкасці. Дзеля якой хацелася стаць чысцейшай і так хацелася жыць. Але няма ў мяне зараз і гэтага.

За два гады знаходжання ў калоніі я не атрымала ніводнага ліста ад былога мужа, ніводнай паперы ад суда. І раптам 22 снежня 1991 года мяне паставілі перад фактам: 9 снежня 1991 года нарсуд Кастрычніцкага раёна г.Гродна пазбавіў мяне бацькоўскіх правоў. Мне не пакінулі нават дня, каб я магла абскардзіць гэты прысуд. Вось і штурхнуў мяне адчай звярнуцца да вас. Чаму мяне так рана выкраслілі з жыцця? Чаму, выносячы мне такі прысуд, не задалі майму былому мужу, які дабіўся пазбаўлення мяне бацькоўскіх правоў, адно-адзінае пытанне: што штурхнула мяне пайсці на гэтае злачынства? Калі я, маці 5 дзяцей, інвалід II групы, пастаянна была матэрыяльна абмежавана, ледзь зводзіла канцы з канцамі, калі вечарам клалася спаць і думала, чым карміць дзяцей заўтра, чаму тады ніхто не пацікавіўся маім жыццём, чаму тады мой былы муж, ведаючы, што я раблю злачынства, не спыніў мяне, не кінуў свае п'яныя разгулы і не забяспечыў сям'ю? Усе клопаты ляглі на мае плечы, а ці шмат я магу, слабая, хворая жанчына? Не аказалася тады побач са мной добрага, спагадлівага чалавека, які б дапамог, спыніў. І вось я тут. Я ніколі не ўжывала спіртнога, ніколі не знала іншых мужчын, ніколі не пакідала дзяцей без кавалка хлеба, хаця ой, як нялёгка ён мне даставаўся. Ніколі не хадзілі мае дзеці брудныя і абарваныя. За што, за што ж мяне пазбавілі правоў?

Я не прашу зніжэння тэрміну пакарання, не прашу вызвалення. Я хачу вярнуць сваіх дзяцей.

У 1988 годзе я была ўзнагароджана медалём мацярынства II ступені. Не толькі ж за тое, што я нарадзіла гэтых дзяцей, а напэўна, і за тое, што расціла, карміла, даглядала іх. Як жа растлумачыць гэты факт? Была добрай маці і раптам за тры гады стала дрэннай?

Прашу вас адгукнуцца, дапамагчы мне ў маім горы.

Суднік Вольга Сяргееўна.

Ад рэдакцыі: Ліст гэтай жанчыны мы накіроўваем у Народны суд Кастрычніцкага раёна г.Гродна з просьбай пракаменціраваць яго.

# ІНФА-КРЫМ

## АСЦЯРОЖНА: ЗЛЫ САБАКА!

Непрыемны інцыдэнт з удзелам сабакі адбыўся 9 сакавіка на праспекце Машэрава ў Мінску. Шафёр вытворчага аб'яднання "Мінскаўтатранс" С. і пілот Мінскага авіяатрада Б. у нецвярозым стане вырашылі "разабрацца" з рабочым аднаго з малых прадпрыемстваў горада. Міліцыі, якая прыбыла на месца здарэння, хуліганы аказалі супраціўленне пры дапамозе... свайго сабакі. Міліцыянеру давялося страляць. У выніку канфлікту жывёла з-за сваіх гаспадароў паранена, а самі яны затрыманы.

## НА ЗАЙЗДРАСЦЬ ГІНЭСУ

Гісторыі, якія б на Захадзе ў імгненне вока трапілі ў кнігу Гінэса, у нас здараюцца амаль штодзень. Вось і 9 сакавіка супрацоўнікі Савецкага і Нясвіжскага аддзяленняў міліцыі затрымалі рабочага МТЗ, які спрабаваў выкрасці з будоўлі на сталічнай вуліцы Сурганава... 5 бетонных панелей. Такімі тэмпамі ў хуткім часе з новых мікраранаў будуць знікаць цэлыя дзевяціпавярховікі.

У той жа дзень адбылося надзвычайнае здарэнне і на Мінскім аўтамабільным заводзе. Невядомыя злачынцы выкралі запчастак на 30 тысяч рублёў, не пакінуўшы нават прывітання "пільнай" ахове.

## "МАСТАЦТВА НАЛЕЖЫЦЬ НАРОДУ"

Гэтыя словы рэвалюцыйнага класіка вучань дзевятага класа мінскай школы № 11 зразумеў па-свойму. У мінулыя выхадныя праз адчыненае акно ён выкраў са сваёй "alma mater" дыяпраектар і акустычныя калонкі. Аднак мясцовая міліцыя таксама "сабаку з'ела" на матэрыялістычнай дыялектыцы і ўжо праз дзень затрымала юнага злачынцу.

## СУМНЫЯ ПАДАРУНКІ

зрабілі сваім жанчынам напярэдадні свята два мінчаніны, якія 6 сакавіка былі затрыманы міліцыяй пры спробе крадзяжу пясцоў са звераформы калгаса імя Войкава Мінскага раёна. Высветлілася таксама, што затрыманыя і яшчэ некалькі іх прыяцеляў учынілі падобныя крадзяжы 29 студзеня і 10 лютага гэтага года.

А 19-гадовы навучэнец СПТВ з Барысаўскага раёна, відаць, страціўшы надзею набыць дэфіцытныя вінна-гарэлачныя вырабы ў краме, у ноч на 7 сакавіка пранік у сховішча фірмы "Ніва", што ў вёсцы Светлы Гай. Хлопец выкраў адтуль 13 бутэлек шампанскага і 8 — каньяку, але хутка быў затрыманы.

## Паслядоўнік Монтэ-Крыста

аб'явіўся ў Слуцку. У ноч на 7 сакавіка, каб выкрасці "Масквіч" з прыватнага гаража, яму давялося зрабіць падкоп. Злачынец пакуль не ўстаноўлены.

У бюро дзяжурыў
П.Сіманаў.




## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі

**(Працяг. Пачатак у №№ 7, 8, 9, 10.)**

У другой палове XVIII ст. "дзяжурнай" прычынай для ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы РП стала "дысідэнцкая" праблема — ураўненне ў правах некатолікаў ("дысідэнтаў") з католікамі.У 1767 г. пры падтрымцы Расіі і Прусіі ствараюцца ў Слуцку — праваслаўнымі, а ў Торуні — пратэстантамі свае канфедэрацыі. Мэтай іх было дасягненне роўнасці вернікаў усіх канфесій у РП. У 1768 г. сейм задаволіў іх памкненні. У сваю чаргу ў тым жа годзе праціўнікі такога рашэння арганізавалі ў Бары, што на Украіне, канфедэрацыю, якая аб'яднала шырокія колы шляхецкага саслоўя ўсёй РП. Значную падтрымку займелі барскія канфедэраты і на Беларусі. У пачатку верасня 1771 г. вялікі гетман літоўскі М.К. Агінскі, сабраўшы 2 тысячы прыхільнікаў-канфедэратаў, разбіў пад в. Бяздзеж каля Драгічына расейскі атрад палкоўніка Альбічава. Аднак трывала супрацьстаяць моцы расейскага войска канфедэрацкія атрады не змаглі. Да канца 1771 г. яны былі разбіты. Пасля гэтых падзей пад уздзеяннем абвостранай міжнароднай сітуацыі адбываецца першы падзел РП паміж Расейскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй. У 1772 г. да Расеі адыходзіць Усходняя Беларусь.

З мэтаю ўзмацнення сацыяльна-палітычнага і эканамічнага становішча РП, а таксама, каб прадухіліць далейшыя магчымыя захопы тэрыторыі, Вялікі альбо "4-гадовы" Сейм (1788—1792 гг.) прыняў шэраг прагрэсіўных рашэнняў. Па сутнасці, яны былі накіраваныя на тое, каб вывесці РП з палітычнага крызісу і паставіць на шлях буржуазных рэформ. Найбольш яскрава гэтыя памкненні былі зафіксаваныя ў Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Скасаванне права "Liberum veto", адмена выбарнасці караля — цяпер трон перадаваўся ў спадчыну, павелічэнне праваў мяшчанства — усё гэта істотна абмяжоўвала правы "залатой шляхецкай вольнасці". Але, згодна з Канстытуцыяй 3 мая, пераставаў існаваць гістарычны падзел дзяржавы на Карону (Польшчу) і ВКЛ. Павінна была існаваць адна дзяржава — Рэч Паспалітая. За яе манархам захоўваўся толькі адзін тытул —"кароль польскі". Амбіцыі беларускага дваранства былі гэтым істотна зачэпленыя. Цэнтралізацыя ўлады ў РП занепакоіла і Расею.

У 1792г. Расея падтрымлівае частку беларуска-польскага магнацтва, якая аб'ядналася ў Таргавіцкую (ад назвы ўкраінскага мястэчка Таргавіцы) канфедэрацыю з мэтаю ліквідацыі рэфарматарскіх рашэнняў 4-гадовага Сейма. Пачынаецца кароткая (май— ліпень 1792г.) вайна паміж Расеяй і РП. На тэрыторыі Беларусі адбылося дзве найбольш буйныя бітвы: пад Мірам і Бярэсцем. Вайна скончылася паражэннем РП і прывяла да другога яе падзелу. Да Расеі адышлі беларускія землі прыкладна па лініі Друя—Пінск. Апошні, Гародзенскі, (1793 г.) Сейм РП адмяніў Канстытуцыю 3 мая.

Рэч Паспалітая, неаднаразова падзеленая паміж варожымі суседзямі, у канцы XVIII стагоддзя апынулася перад магчымасцю свайго поўнага знікнення з палітычнай карты Еўропы. Аднак прагрэсіўныя колы афіцэрства, шляхты, святарства вырашаюць са зброяй у руках дабіцца сапраўднай незалежнасці, вярнуць страчаныя тэрыторыі і гонар зганьбаванай дзяржаве.

24 сакавіка 1794 г., з абвяшчэння ў Кракаве Акта паўстання, пачынаецца ўзброеная барацьба супраць захопнікаў пад лозунгам "воля, цэласць, незалежнасць". Узначальвае паўстанне генерал-лейтэнант Тадэвуш Касцюшка, па паходжанні беларускі шляхціц з-пад Бярэсця.

У красавіку 1794г. да паўстання далучаюцца Літва і Беларусь. 24 красавіка ў Вільні абвяшчаецца Акт паўстання ВКЛ. У Вільні ж ствараецца напачатку асобны ад Кароны вышэйшы орган па кіраўніцтву паўстаннем —"Найвышэйшая Літоўская Рада". Галоўную ролю ў падрыхтоўцы паўстання і на яго пачатку адыгрываў Якуб Ясінскі, палкоўнік "літоўскага корпуса інжынераў". Ён быў прызначаны Радай галоўнакамандуючым літоўскім войскам. Пад яго кіраўніцтвам адбыўся захоп расейскага гарнізона ў Вільні (у ноч з 22-га на 23-е красавіка), а таксама бітвы з расейцамі на Віленшчыне пад Немянчынам і Палянамі, на Ашмяншчыне пад Соламі. У гэтых бітвах прынялі ўдзел беларускія сяляне-касінеры, узброеныя асаджанымі як дзіды косамі.

Характэрным для паўстання на Беларусі было прымяненне партызанскіх (дыверсійных) формаў барацьбы (як і ў сярэдзіне XVII ст.) з расейскімі захопнікамі. Першая спроба дыверсійнага рэйду на Меншчыну была прадпрынята ў маі пад кіраўніцтвам былога падскарбія літоўскага Міхаіла Клеафаса Агінскага. Потым у жніўні Сцяпан (Стэфан) Грабоўскі з 2-тысячным атрадам робіць рэйд з-пад Вільні да Бабруйска, наводзячы паніку на расейскія гарнізоны. Прыкладна ў гэты ж час у другі раз М.Клеафас Агінскі непакоіць тылы расейскай арміі. Частка яго атрада, значную долю якога складалі касінеры, даходзіць да Дынабурга, спальвае яго прадмесце. Але пасля страты Вільні (12 жніўня) касцюшкаўскае паўстанне на Беларусі ідзе на спад. Пасля паражэння літоўска-польскага корпуса генерала Сераакоўскага спачатку пад в.Крупчыцы ля Кобрына (16.IX), а на наступны дзень — пад Бярэсцем і адыходу рэштак літоўскага войска з-пад Гародні баявыя дзеянні пераносяцца на тэрыторыю Польшчы.

Спрэчкі паміж Варшавай і Вільняй аб кіраўніцтве паўстаннем у ВКЛ, адсутнасць адзінага і дасведчанага камандавання ім на Беларусі, частая яго змена, разнароднасць інтарэсаў шляхты і сялянства — усё гэта не магло не выклікаць яго паражэнне. Простаму беларускаму селяніну, касінеру, гараджаніну ці збяднеламу шляхціцу прапаноўвалі біцца за інтарэсы блізкай,але не сваёй, а "чужой Бацькаўшчыны". Сваю ж яшчэ трэба было знайсці і ўсвядоміць, каб потым біцца толькі за яе, не хочучы ніякай іншай. Усведамленне гэтага прыйдзе да лепшых сыноў Беларусі ўжо толькі ў XIX стагоддзі.

Апошнім сумным акордам XVIII стагоддзя стаў трэці падзел Рэчы Паспалітай 1795 года. Цяпер ужо ўсе беларускія землі былі праглынуты Расейскай імперыяй.

### VIII

Уключаная ў склад Расейскай імперыі Беларусь хутка перажыла новае ваеннае спусташэнне. У 1812 годзе яна стала тэатрам знішчальнай вайны французскай арміі Напалеона супраць Расіі. Дзесяткі тысяч беларусаў былі рэкрутаваны ў расейскія палкі, аднак частка насельніцтва, кіруючыся прынцыпам "вораг майго ворага — мой прыяцель" і спадзеючыся на адраджэнне Вялікага княства Літоўскага, падтрымалі Напалеона. Летам 1812 года тут утвараліся свае ўзброеныя сілы ў дапамогу французам — 4 палкі конніцы і 5 палкоў пяхоты. Іх мабілізацыяй займаўся Вайсковы Камітэт, у які ўваходзілі Ігнат Тышкевіч, АляксандрХадкевіч, Аляксандр Пацей, Павел Сапега ды іншыя вядомыя людзі краіны. Прайграўшы кампанію, французы адступалі ізноў праз Беларусь — спустошаны і выпалены край, жыхары якога паміралі ад тыфусу, цынгі і халеры. Беларускія сяляне, якія пакутавалі найбольш, уздымалі бунты, аднак царскі ўрад жорстка распраўляўся з іх рухамі.

У лістападзе 1830 г. у Польшчы пачалося нацыянальна-вызвалечае паўстанне. У красавіку 1831 г. яно ахапіла Заходнюю Беларусь (Ашмянскі, Свянцянскі, Браслаўскі паветы Віленскай губерні, Вілейскі і Дзісненскі паветы Мінскай губерні). Атрады налічвалі па 200—300 чалавек, некаторыя да 1 тысячы і больш. У іх склад уваходзілі прадстаўнікі польскага, а таксама паланізаванага беларускага дваранства, каталіцкае і уніяцкае духавенства, сяляне, якія спачатку прымкнулі да паўстання, але, бачачы, што кіраўніцтва апошняга не ставіць у сваёй праграме адмены прыгоннага права, адышло ад барацьбы.

Павятовыя паўстанцкія ўрады аб'яўлялі рэкруцкія наборы ў паўстанцкае войска. Так, у Вілейскім павеце кожныя пяць душ мужчынскага полу павінны былі паставіць аднаго пехацінца, узброеных "стрэльбай, пікай, касой ці сякерай" і добра абмундзіраваныя, а кожныя 20 душ — аднаго кавалерыста з дзідай. Кожны шляхецкі двор павінен быў паставіць аднаго ўзброенага кавалерыста. Толькі ў Свянцянскім і Вілейскім паветах меркавалася стварыць 15-тысячнае войска.

У Віленскай і Мінскай губернях з-за няўзгодненасці дзеянняў паўстанцкіх атрадаў, адсутнасці адзінага камандавання паўстанне ў канцы мая 1831 г. пайшло на спад. Дробныя паўстанцкія атрады былі разбіты, шмат паўстанцаў забіта, ранена, узята ў палон, шмат дэзерціравалі.

У Гарадзенскай губерні паўстанне пачалося пазней, чым у Віленскай і Мінскай. Тут, у раёне Белавежскай пушчы, дзейнічаў атрад колькасцю каля 1 тысячы чалавек. Яго кіраўнікамі былі сакратар Гародзенскага грамадзянскага губернатара Красоўскі, кіраўнік дваранства Брэсцкага павета Нямцэвіч, кіраўнік дваранства Бельскага павета Белгарайскі, галоўны лясьнічы Белавежскай пушчы Ранко, памешчыкі Незабітоўскі, Біялапіятровіч, Жылінскі і інш. Ужо ў першыя дні паўстанцы Гародзенскай губерні захапілі шмат рускіх транспартаў і сур'ёзна пашкодзілі сувязь рускай арміі з тылам.

У Навагрудскім павеце дзейнічаў паўстанцкі атрад (400 чал.) пад кіраўніцтвам павятовага кіраўніка дваранства І.Кашпца. Аднак ён хутка быў разбіты ўрадавымі войскамі.

Летам 1831 г. каля Вільні адбыўся рашучы бой паміж паўстанцамі Літвы, Беларусі і Польшчы і царскімі войскамі. Паўстанцкія атрады, якія не мелі адзінага кіраўніцтва, добрай зброі, былі разбіты.

Ва Усходняй Беларусі (Магілёўскай і Віцебскай губернях), дзе быў значна меншы працэнт католікаў, чым у Заходняй Беларусі, паўстанцкі рух не набыў значных маштабаў.

Напачатку жніўня 1831 г. шляхецкае паўстанне было падаўлена ў асноўным ва ўсіх паветах Беларусі. У краіне надоўга запанавала рэакцыя царызму. Быў закрыты Віленскі універсітэт, ліквідавана мноства школ, забаронены славуты Літоўскі Статут — кодэкс права беларуска-літоўскага гаспадарства. А ў 1839 годзе была скасавана царкоўная унія — беларусаў уніяцкага веравызнання гвалтам перавялі ў праваслаўе.

Аднак ідэі вызвалення ад чужога панавання не памерлі. Праз колькі дзесяцігоддзяў жыхары Беларусі паўсталі супраць расейскага царызму трэці раз.

У студзені 1863 года, калі ў Польшчы пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць расейскага панавання, яно хутка ахапіла таксама тэрыторыю Беларусі і Літвы. Тут пачалі ўтварацца першыя паўстанцкія атрады пад кіраўніцтвам К.Карэва, Л.Нарбута, Ф.Віславуха і іншых. Яны складаліся з дробнапамеснай польскай і беларускай шляхты ды рамеснікаў.

**(Заканчэнне будзе).**

## Дайджэст

* * *

Хлебазаводы пад час "хлебнага буму" ў Маскве мінулым летам спыняла мафія. Аднаго дырэктара такога завода ўзялі за ногі і патрымалі ўніз галавой на мосце. Унізе — рака, камяні. "Будзе завод працаваць?" Папярэдзілі, што праз 30 секунд расціснуць рукі, і ён паляціць з моста. Моцны, валявы чалавек, і той усё ж сказаў, што тры дні завод працаваць не будзе. Хто аддаваў мафіі такія загады — пакуль застаецца тайнай...

"Экспрэс-дайджэст" (Талін).

* * *

Ігара Талькова, забітага ў пецярбургскім Палацы спорту, выратаваць было немагчыма, нават калі б на месцы быў разгорнуты апарацыйны стол і чакала б дзяжурная брыгада медыкаў. У яго было агнястрэльнае кулявое раненне груднай клеткі з пашкоджаннем сэрца. Па сутнасці, Талькоў быў забіты на месцы.

"Медыцынская газета" (Масква).

* * *

Чатыры сястры-блізняты Першалавы правялі пад зямлёй ні многа, ні мала 45 гадоў. Нарадзіліся яны ў падвале старога дома ў Цюмені. Уваход у падвал быў завалены ў час Вялікай Айчыннай вайны, калі там знаходзіліся іх бацькі. На шчасце, падвал аказаўся вялікім (каля 450 кв.метраў) вайсковым сховішчам кансерваваных прадуктаў і адзення, што дазволіла бацькам не толькі выжыць, але і нарадзіць дачок. Паводле прыблізных падлікаў, прадуктаў жанчынам хапіла б яшчэ на 7—8 гадоў. Калі б аднойчы іх выпадкова не раскапалі будаўнікі.

"Сацыялістык Татарстан" (Казань).

# Сенсацыі 1991 года

* * *

Амерыканская прэса паведаміла, што ў сакрэтнай справаздачы былой Савецкай акадэміі навук два астрафізікі – Дзмітрый Харламаў і Аляксей Нікалаў – перасцерагаюць: наша Зямля становіцца "вельмі цяжкай" у выніку падзення метэарытаў і касмічнага пылу. Вучоныя апасаюцца, што к 2000 году Зямля можа проста "выпасці" са сваёй арбіты...



* * *

У наступнае асабліва цяжка паверыць, але ў джунглях Перу знойдзена манета з невядомага металу, якая была зроблена... у 2074 годзе. Эксперты выключаюць яе фальшывасць, а вядомы бразільскі археолаг Джозэ Сабіціні і яго калега Аўгуст Бенавідс сцвярджаюць, што маюць важкія доказы наведвання нашага часу гасцямі з XXI стагоддзя. Да такіх вынікаў яны прыйшлі пасля стараннага абследавання месца знаходкі і апытання індзейцаў, якія знайшлі манету; слядоў на зямлі і нейкага знаку, выпаленага на пні дрэва непадалёк. Знак удалося прачытаць: "Том Суліван, ліпень 2081 года Е-Н-Г".




* * *

У атмасферу Зямлі трапілі гіганцкія аднаклетачныя істоты, якія, паводле паведамлення амерыканскага часопіса "Ньюс", атакуюць у паветры самалёты, і тыя знікаюць пры невядомых акалічнасцях. Ужо зарэгістравана больш 100 такіх утварэнняў, якія з выгляду нагадваюць аблокі дыяметрам у некалькі метраў, што плануюць над Паўднёвай Каралінай, над Сахарай і Нарвегіяй. Іх існаванне пакуль утрымліваецца ў глыбокай тайне, але ананімны афіцэр амерыканскага паветранага флоту вырашыў паведаміць пра гэта людзям, напісаўшы ў часопіс. Ён даслаў таксама і здымкі верталёта паміж двума "аблокамі" перад ягоным знікненнем, зробленыя з борта ваеннага самалёта.

* * *

Амерыканская прэса паведаміла і наступную сенсацыю. Як сцвярджае часопіс "Ньюс", кубінскі лідэр Фідэль Кастра памёр 11 снежня мінулага года ад інфаркту і з таго дня на ягоным месцы мы бачым двайніка. Верыць ці не верыць гэтаму? Будзем спадзявацца, што гісторыя калі-небудзь высветліць праўду.

* * *

Серыя сенсацыйных здымкаў, выкананых найноўшай тэхнікай, прынесла неверагодная адкрыццё: сярод нас жывуць і працуюць прадстаўнікі іншых сусветаў. Прышэльцы выглядаюць гэтак жа, як мы, ідэнтычна з намі паводзяць сябе і таму знайсці іх не так ужо проста. Пачалося ўсё з таго, што вучоныя, пры выпрабаванні спецыяльна скансруяванай "радыеактыўнай" фотакамеры, якая прызначана для будучых здымак у космасе, выявілі на плёнцы незразумелую для іх з'яву. Фатаграфуючы людскі натоўп на вуліцах



шэрагу еўрапейскіх сталіц, яны зрабілі 76 здымкаў, на якіх, паводле іх меркаванняў, адлюстраваны асобы незямнога паходжання. Швейцарскі фізік Гуга Карнхельм з Жэневы, які прымаў удзел у гэтай рабоце, паведаміў, што іх галовы акружае зеленаватая фасфарасцыруючая аура, нябачная простым вокам і нават з дапамогай вядомай дагэтуль апаратуры. Але самае дзіўнае, што гэтыя істоты аказаліся абсалютна няўлоўнымі. Як толькі да іх спрабавалі наблізіцца з мэтай высвятлення асобы, яны бясследна зніклі. Таму вучоныя вырашылі звярнуцца да паліцыі для ідэнтыфікацыі сфатаграфаваных. Аднак ніводнай асобы, якая мае на здымках ауру вакол галавы, не ўдалося знайсці. Паліцыя аказалася бяссільнай.



По матэрыялах замежнага друку.

## Кінаафіша

### "Нябёсы запаветныя"

Гэта новая каляровая двухсерыйная трагікамедыя створана рэжысёрам Эльдарам Разанавым на кінастудыі "Масфільм" з удзелам сумеснага прадпрыемства "Сінябрыдж" па сцэнарыю, які ён напісаў у садружнасці з Генрыэтай Альтман. Фільм распавядае аб бязрадасных буднях нашага жыцця, на дне якога аказалася шмат самых розных людзей.

Гераіня карціны — былая мастачка, паненка ўжо ва ўзросце, але актыўная. Зарабляе сабе на пражытак міласцінай, вымагаючы яе ў прахожых амаль сілай (сілай пераканання). Прасаджвае "заробак" тут жа на шампанскае і таксі. Знаходзіць сабе сяброўку, такую ж "маладуху", дае ёй імя, прозвішча (тая страціла памяць з-за пабояў роднага сына) і сябра... З гэтым сябрам яна пазнаёмілася ў міліцыі, у КПЗ, куды яны трапілі за дробнае хуліганства. Палкоўнік у адстаўцы па мянушцы Банзай, ветэран японскай вайны, такі ж, як і ягоныя таваркі. У такім складзе яны едуць на вяселле да брата мастачкі — былога музыкі, які цяпер ахоўвае дачу кампазітара, праўда, кампазітар пра гэта не ведае. Жэніцца брацельнік у сёмы раз, па каханню, на маладзенькай пэтэвушніцы. Тая ў сваю чаргу выходзіць замуж за "старога дупеля", упэўненая, што ён і ёсць кампазітар. Стары дупель не падазрае каварства і лётае на крылах кахання — у прамым сэнсе, не горш за герояў Шагала...

У фільме знялося цэлае сузор'е папулярных акцёраў — Лія Ахеджакава, Валянцін Гафт, Леанід Бранявой, Алег Басілашвілі, Святлана Немалява, Наталля Гундарава, Вячаслаў Нявінны, Раман Карцаў, Ніна Русланава, Аляксандр Панкратаў-Чорны, Аляксандр Бяляўскі.

### "За апошняй рысай"

Гэту захапляльную прыгодніцкую кінастужку перадае на суд гледачоў студыя "Кола" кінаканцэрна "Масфільм". Сцэнарый напісаў Эдуард Валадарскі, рэжысёр-пастаноўшчык — Мікалай Стамбула.

...Віктар Дромаў, баксёр, за п'яную бойку трапляе ў турму. Адсядзеўшы тэрмін і трапіўшы зноў на волю, Віктар аказваецца выкінутым на абочыну жыцця: ні сям'і, ні грошай. Ім цікавяцца рэкеціры — ім патрэбны чалавек, які валодае страшнымі ўдарамі абедзвюх рук.

У ролі галоўнага героя дэбютуе малады акцёр Яўген Сядзіхін. У фільме таксама здымаўся трагічна загінуўшы пасля спявак і кампазітар Ігар Талькоў.

У астатніх ролях занятыя Аліна Таркінская, Аляксандр Казакоў, Віктар Сцяпанаў, Тацццяна Лютаева і іншыя.

### "Вуха"

Так называецца каляровая чэха-славацкая мастацкая кінастужка, створаная вядомым рэжысёрам Карэлам Кахіняй па сцэнарыю, напісанаму ім у сааўтарстве з Янам Прахазкай.

На дзіва паспяхова складалася кар'ера Людвіга, маладога намесніка міністра па будаўніцтву. Аднак на ўрачыстым прыёме ў Доме ўрада высветлілася, што міністр і некалькі ягоных калег арыштаваны. Вярнуўшыся дамоў, Людвіг і яго жонка Ганна ўсведамляюць, што яму таксама пагражае арышт.

У гэтых экстрэмальных абставінах іх асабістыя ўзаемаадносіны падвяргаюцца нялёгкім выпрабаванням. Шмат складанага хаваецца, аказваецца, за знешне добрапрыстойным фасадам гэтай сям'і.

Галоўныя ролі выконваюць Іржына Багдалава, Радаслаў Брзабагаты, Баржывы Наўраціл, Яраслаў Моўчка, Любар Такош.

Дзяжурны рэдактар П. СІМАНАЎ. Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 19 050.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Алена АГІБАЛАВА, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Кузьма ШАПЛЫКА.



Зак. № 11.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12